№ 26 (911) 15 ліпеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдня, у серады

## Грошы даражэйшыя за панты



Абрынуліся цэны на машыны прэміум-класа. **Старонка 2.**

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# На пяты тэрмін



**На фота: Аляксандр Лукашэнка прыляцеў на саміт БРІКС у расійскую Уфу.**

REUTERS

Аляксандр Лукашэнка ідзе на чарговыя перавыбары. Урачыстага абвяшчэння ідэолагі ладзіць не сталі: **без прэсы і тэлекамер**, проста ўціхую прынеслі спіс ініцыятыўнай групы ў ЦВК.

Група налічвае дзесяць з паловай тысяч чалавек. З кожнымі выбарамі гэтая лічба прырастае — такім чынам дэманструецца, што давер да ўлады пастаянна расце. Але ініцыятыўная група Лукашэнкі — гэта закрыты клуб, простых людзей з вуліцы туды не клікалі. Вось вы ведаеце, дзе ў вашым горадзе можна было запісацца ў каманду Лукашэнкі? Кіраўніком штаба стаў галоўны прафсаюзнік Міхаіл Орда (**старонка 4**). Калі спатрэбіцца, ён прынясе ў ЦВК мільён подпісаў, і нават больш.

Аднак пра чарговы «ўсебеларускі народны сход», які ўлады традыцыйна ладзяць перад выбарамі, не чуваць. Хваліцца на хурале няма чым.

Апазіцыйныя кандыдаты (Лябедзька, Караткевіч, Калякін) набіраюць валанцёраў, каб паспрабаваць замахнуцца на неабходныя 100 тысяч подпісаў (**старонка 5**). Зрэшты, безальтэрнатыўнымі выбары ўсё адно не будуць. Псеўдаапазіцыйныя Сяргей Гайдукевіч і Віктар Цярэшчанка па чацвёртым коле пачынаюць сваю выбарчую кампанію.

Традыцыйна хочуць увязацца ў кампанію некалькі кандыдатаў, якіх прынята называць фрыкамі, дзівакамі, нават гарадскімі вар'ятамі.

Інтэрнэт-форумы застаюцца люстэркам настрояў пэўнай часткі грамадства. Там ганяць Лукашэнку, але расчараваныя і ў апазіцыі. Неаспрэчную павагу выклікае толькі адна асоба — Мікола Статкевіч. Ягоныя паплечнікі збіраюць сімвалічную ініцыятыўную групу, але Ярмошына не будзе яе рэгістраваць, бо палітык застаецца за кратамі.

**Ягор Марціновіч**

## Возера Машэнскага, бор Шакуціна, курорт Чыжа




На чым зарабляюць беларускія мільянеры? **Старонка 6.**

## Мукачаўскі трохкутнік. Кантрабанда, «Правы сектар» і заклятыя сябры

Што там адбылося насамрэч? **Старонка 3.**

## Сілуэт горада і бізнэс

Піша Ігар Байцоў. **Старонка 10.**

## Жарсці на аграсядзібе, альбо Ці лёгка засекчы пеўня

Вінцэсь Мудроў. Апавяданне. **Старонка 14.**

## Алег Табакоў назваў украінцаў «убогімі»

А яшчэ залічыў да ўкраінскай літаратуры Элізу Ажэшку. **Старонка 12.**

# Грэцыя застаецца на раздарожжы

Прэм'ер-міністр угаворвае парламент **пагадзіцца на кампраміс**.

Прадстаўнікі Еўрапейскага Саюза прыйшлі да часовага кансэнсусу з прэм'ерам Грэцыі Алексісам Цыпрасам. Але гэта яшчэ зусім не значыць, што Грэцыя застанецца ў зоне еўра і будзе падпарадкоўвацца рашэнням фінансістаў ЕС.

Пакуль што працягваць супрацоўніцтва з ЕС пагадзіўся толькі адзін чалавек — гэта сам Цыпрас. Цяпер яму патрэбна пераканаць грэчаскі парламент прыняць умовы еўрапейцаў.

У найбліжэйшы час грэчаскі парламент павінен правесці законы, скіраваныя на павышэнне ПДВ, скарачэнне пенсій і забеспячэнне незалежнасці статыстычнага ўпраўлення Грэцыі. Мусяць быць прынятыя новыя Грамадзянска-працэсуальны кодэкс і банкаўскія законы.

Нарэшце, да канца года Грэцыі давядзецца прадаць свае актывы на суму прыблізна ў 50 мільярдаў еўра, каб пагасіць крэдыты.

Таксама Еўрасаюз патрабуе ад Грэцыі прывядзення працоўных і сацыяльных стандартаў у адпаведнасць з еўрапейскімі. Гэта значыць, напрыклад, што грэкі не змогуць у 40 год ісці на пенсію, або зачыняць усе свае гандлёвыя кропкі ў нядзелю.

Гэта ўсё патрэбна для таго, каб атрымаць чарговы крэдыт у памеры 86 мільярдаў еўра.

Цыпрас аказаўся ў неадназначнай сітуацыі. Тыдзень таму ён заклікаў усіх грэкаў адмаўляцца ад прапаноў Еўрасаюза і грозна трос кулаком з трыбуны, а цяпер з апушчанай галавой прыязджае ў Афіны і намагаецца пераканаць людзей цалкам у адваротным, кажучы, што захаванне супрацоўніцтва з Еўрасаюзам з'яўляецца галоўным прыярытэтам для Грэцыі.

Але ў грэчаскім парламенце пануюць левыя і цэнтрысты, якія з'яўляюцца апанентамі жорсткіх эканамічных мер. Таго ж меркавання трымаецца і большасць насельніцтва, якая не хоча зацягваць паясы.

Пытанне выхаду Грэцыі з еўразоны застаецца адкрытым. Большасць краін Еўрасаюза за тое, каб грэкі ішлі далей сваёй дарогай. Да іх ліку можна аднесці Германію, Галандыю, Бельгію, Аўстрыю, Славакію, Літву, Латвію і Фінляндыю. А вось Францыя, Італія і Іспанія хочуць любой цаной захаваць грэкаў.

У выніку магчымай адмовы грэчаскага парламента ад умоў ЕС дэфолт будзе ўжо сапраўды непазбежным, а выхад з еўразоны стане рэальным для краіны, у якой 81% насельніцтва нібыта хоча заставацца ў зоне дзеяння адзінай еўрапейскай валюты. Грэчаскія банкі стаяць закрытымі ўжо трэці тыдзень, агульная запазычанасць краіны перавышае 180% ад ВУП, а святла ў канцы тунэля пакуль не відаць.

**Зміцер Міцкевіч**

**Па-Вашаму, хто вінаваты ў праблемах Грэцыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Самі грэкі | 984 | 50% |
| Не ўвесь грэчаскі народ, а палітыкі краіны | 553 | 28% |
| Міжнародныя банкіры і крэдыторы Грэцыі | 215 | 11% |
| Нам бы іх праблемы | 205 | 10% |

Прагаласавала 1957 чалавек

# Грошы даражэйшыя за панты

Абрынуліся цэны на машыны **прэміум-класа**.

За апошні год аўтарынак Беларусі значна змяніўся — патаннелі ўсе аўто. Але асабліва адчувальна ў цане згубілі машыны прэміум-класа, выпушчаныя на пачатку 2000-х — гэта «БМВ» пятай і сёмай серыі, «Мерседэсы» S-класа і «Аўдзі А8». З пачатку года гэтыя машыны патаннелі на 30—40%, а некаторыя мадэлі нават на 50%.

Маючы ў кішэні $7500, беларусы ўжо могуць прыцэньвацца да іміджавага ўседарожніка «Поршэ Каен» 2003 года. Іншае статуснае аўто «БМВ» X5 можна купіць ужо за $9000, а прапановы на «БМВ» сёмай серыі пачынаюцца з $8000.

«Можна газаваць, дзеўкі дурэюць!», «За аўто не саромна», — такімі подпісамі суправаджаюць уласнікі свае аб'явы на сайтах па продажы аўто. Але па колькасці такіх аб'яў відаць, што асаблівым попытам прэміум машыны не карыстаюцца, нягледзячы на нізкія цэны.

«Цэны на прэміяльныя машыны прaселі праз велізарны паток танных аўто з Расіі, — перакананы Зміцер Макарэвіч, рэдактар сайта «Аўтамалінаўка». — Да таго ж буйныя гульцы на аўтамабільным рынку, кшталту «Рэно» і «Фальксвагена», зразумелі, чаго хоча тутэйшы пакупнік, і наладжваюць вытворчасць бюджэтных мадэляў коштам да $10 тысяч, якія не патрабуюць шматмільённых інвестыцый і не спажываюць шмат паліва. Увогуле, $10 тысяч сталі той планкай, праз якую беларусам вельмі цяжка перакрочыць пры цяперашнім матэрыяльным стане, бо прыбыткі не дазваляюць утрымліваць дарагія машыны. Прагматычны чалавек разумее: сёння ён возьме ў салоне машыну за дзесяць тысяч і не выдактуе на яе ані граша цягам двух-трох год. А ў тым выпадку, калі ён купіць «Поршэ Каен» ці «БМВ» прэміум класа, яму давядзецца штомесяц развітвацца з круглымі сумамі, каб машына проста ездзіла. Да таго ж, тэндэнцыя на патанненне машын не распаўсюджваецца на дэталі да іх — яны будуць стабільна дарагімі яшчэ не адзін год. Уласнікі разумеюць, што прэстыжныя машыны выпуску пачатку 2000-х гадоў будуць усё мацней біць па кішэнях. Яны іх прадаюць».

Зміцер Макарэвіч прагназуе, што тэндэнцыя што да патаннення прэстыжных машын захаваецца і нават узмоцніцца.

«Варта трохі пачакаць, пакуль новыя бюджэтныя «Пежо», «Рэно» і «Фальксвагены» пакатаюцца па нашых дарогах ды іх стануць перапрадаваць. Вось тады тыя прэміум-машыны ўпадуць яшчэ ніжэй, а іх цяперашняе месца зоймуць тыя ж прэміумы, толькі крыху маладзейшыя», — маркуе Зміцер. Крутыя «бэхі» і «мэрсы», кажа эксперт, па-ранейшаму цікавяць тых, хто хоча зрабіць уражанне. Але прынцып «панты даражэйшыя за грошы» ўжо не працуе.

**Арцём Гарбацэвіч**




**«Мерседэс W220» 2000 — ад $7000.**



**«Поршэ Каен» 2003 — ад $7500.**

Для беларусаў такія цэны на аўто — дзіва, але ў суседняй Літве яны даўно сталі нормай. Напрыклад, у Вільні дзесяцігадовы «Поршэ Каен» каштуе каля $6000.

## Кватэры ў першым беларускім хмарачосе купілі пакуль толькі 30 чалавек

Расійская кампанія «Ітэра» пачала будаўніцтва першага беларускага хмарачоса, «Ветразя», яшчэ ў 2010 годзе. Тэрміны здачы дома неаднаразова пераносіліся, і жыхары атрымалі свае кватэры толькі сёлета.

Вышыня «Ветразя» — 134 метры разам са шпілем. Паводле інфармацыі забудоўшчыка, у доме 204 кватэры ў двух пад'ездах.

Аднак распрадаецца жыллё няхутка, вялікага попыту на кватэры няма. Як стала вядома «НН», нерухомасць у элітным доме купілі толькі... 30 чалавек.

Яшчэ каля 50 кватэр удалося прадаць кіпрскім афшорным фондам.

Рэшта павісла мёртвым грузам на балансе кампаній «ІтэраБелБуд» і «Мінск-Сіці».

У мінулым месяцы «Ітэра» сутыкнулася з дадатковымі праблемамі. Эканамічны суд Мінска арыштаваў дзве кватэры ў «Ветразі».

**Ягор Марціновіч**



**Самае чытанае на nn.by за 8—14 ліпеня**

1 Расійскі акцёр Алег Табакоў назваў украінцаў «убогімі» і паказаў уласнае невуцтва

2 У ЗША яшчэ адну настаўніцу судзяць за сэкс са старшакласнікамі

3 Андрэй Іларыёнаў: Упершыню за 15 месяцаў Крэмль сур'ёзна спужаўся

4 «Для Расіі не праблема прымусіць Лукашэнку танчыць канкан»

5 Вярхоўны суд раскрыў правіну чатырох звольненых суддзяў

6 У Мінску адчыніўся патэнцыйны канкурэнт «Макдональдса» — *Burger King*

7 Дзмітрый Ус: «Я заўсёды быў за рускі свет»

8 «Правы сектар» у Мукачаве адмовіўся скласці зброю, Яраш патрабуе адстаўкі Авакава

9 Аматар халявы прыйшоў у мінскі *Burger King* з пластыкавай бутляй па пепсі

10 «Баявыя бураты Пуціна» звярнуліся да ўкраінцаў.

# Мукачаўскі трохкутнік. Кантрабанда, «Правы сектар» і заклятыя сябры

Падзеі 11 і 12 ліпеня ў Мукачаве, закарпацкім горадзе за 40 км ад мяжы ЕС, паспелі ахрысціць «другім украінскім фронтам». **Што там адбылося насамрэч?**

**Факты**

11 ліпеня ў Мукачаве падчас сустрэчы народнага дэпутата з групы «Воля народа» Міхаіла Ланё і кіраўніка 1-га запаснога батальёна добраахвотніцкага ўкраінскага корпуса «Правы сектар» адбылася перастрэлка. Загінуў цывільны.

Байцы «Правага сектара», якія прыехалі на сустрэчу ў трох браняваных усёдарожніках, правалі міліцэйскі кардон і вырваліся за горад.

На трасе іх спыняў блокпост міліцыі, які байцы «ПС» прайшлі з боем, ужыўшы аўтаматы, кулямёт, усталяваны на адной з машын, і гранатамёты, заехалі ў лес і занялі абарону. Перагаворшчыкам з імі падахвоціўся быць народны дэпутат і адзін з самых уплывовых людзей Закарпацця Віктар Балога. Пазней з'явіцца інфармацыя, што ён нібыта фінансуе закарпацкі «Правы сектар».

Генпракуратура кваліфікавала падзеі ў Мукачаве як "стварэнне злачыннай арганізацыі і тэракт". Ідзе следства.

Байцы «ПС» патрабуюць арыштаваць Ланё, кіраўніцтва мясцовай міліцыі.Таксама яны патрабуюць адстаўкі кіраўніка МУС Арсена Авакава.

Кіраўнік «Правага сектара» Дзмітрый Яраш вядзе перамовы з прэзідэнтам Пятром Парашэнкам і кіраўніком СБУ Васілём Грыцаком. Яраш патрабуе гарантый для сваіх байцоў.

**Тры праўды**

**Версія першая. «Правы сектар».** Па версіі «Правага сектара», на сустрэчу да спартыўнага комплексу «Антарэс» іх паклікаў сам Міхаіл Ланё, якога ў «ПС» называюць «крымінальным аўтарытэтам».

Прычына нібыта ў тым, што «Правы сектар» перашкаджаў Ланё займацца кантрабандай на мяжы з ЕС.

Але на месцы сустрэчы іх нібыта чакалі «ўзброеныя цітушкі Ланё», з-за чаго байцы «ПС» і прыехалі са зброяй. Падчас размовы дэпутат пагражаў камбату, патрабуючы не лезці ў "яго справы" на мытні.

Па версіі «Правага сектара», пакуль ішла гэтая гутарка, у спарткомплекс пад'ехалі сілавікі ў поўнай экіпіроўцы без апазнавальных знакаў і пачалі стральбу.

На пытанне, адкуль у байцоў «ПС» былі аўтаматы, кулямёты і гранатамёты, інфармслужба «ПС» заявіла, што «гэта зброя, атрыманая ў баях». Нібыта частка байцоў бярэ яе з сабой, выязджаючы з зоны АТА на адпачынак. Хоць яшчэ год таму Яраш забараніў вывозіць зброю з АТА.

«Правы сектар» катэгарычна адкідае абвінавачванні, што байцы маглі абараняюць інтарэсы Балогі.



**Версія другая. МУС, СБУ і ГПУ.** Афіцыйная версія падзей адрозніваецца. Паводле яе, першымі страляць у Мукачаве пачалі байцы «ПС». Пра гэта сведчыць і аператыўнае відэа, апублікаванае ў сеціве.

Ахвярай канфлікту стаў, верагодна, адзін з некалькіх дзясяткаў «ахоўнікаў» комплексу Ланё. Сам нардэп сцвярджае, што не ведаў забітага.

У МУС заяўляюць, што пасля гібелі першага чалавека іх байцы прыбылі на месца і заблакавалі людзей з «Правага сектара». Але байцы «ПС» зрабілі некалькі чэргаў з аўтаматаў у паветра і, расштурхаўшы машыны МУС, вырваліся з Мукачава.

На трасе Кіеў—Чоп іх спыніў блокпост міліцыі, якая пачала план «Перахоп». У выніку перастрэлкі былі параненыя шэсць міліцыянтаў і трое цывільных, якія выпадкова апынуліся побач. Тры аўтамабілі МУС выбухнулі. Загарэлася і АЗС, каля якой стаяў кардон.

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка запатрабаваў пакараць тых, хто пачаў вайну ў мірным горадзе.

Да справы далучыліся СБУ і Генпракуратура.

**Версія трэцяя. Ланё і Балога.** «Рэальнай прычынай сутыкненняў у Мукачаве стаў канфлікт паміж Міхаілам Ланё і Віктарам Балогам за кантрабандныя плыні на мяжы», — лічыць адзін з лідараў батальёна «Азоў» Сяргей Кароткіх, больш вядомы па пазыўным Боцман.

Ланё і Балога былі бізнэс-партнёрамі і палітычнымі аднадумцамі. Да 2012 года Ланё быў дэпутатам абласной рады палітычнага праекта Балогі «Адзіны цэнтр». Аднак затым са скандалам перайшоў у Януковічаву «Партыю рэгіёнаў».

Паводле суразмоўцаў «УП», «разбегліся» Ланё і Балога з-за канфлікту на глебе кантрабандных плыняў з Еўропы.

Калі скончыліся аргументы, бакі вырашылі выкарыстоўваць цяжкую артылерыю. Віктар Балога — «Правы сектар», якому ён дапамагаў фінансава, Ланё — сваіх байцоў і наёмных цітушак.

І Ланё, і Балога адпрэчваюць абвінавачванні ў кантрабандзе, хоць і прызнаюць, што праблема існуе. Падобна, абодва хочуць адхрысціцца ад гэтай непрыемнай гісторыі.

«Адзіным вінаватым у сітуацыі цяпер выглядае «Правы сектар», — канстатуе Боцман з «Азова». — Аднак мы са свайго боку будзем патрабаваць аб'ектыўнага расследавання ў адносінах і да Ланё, і да Балогі».

«Мукачаўскі канфлікт, — падсумоўвае «Украінская праўда», — нельга звесці да двух дзясяткаў байцоў, якія вырашылі высветліць адносіны «так, як гэта робіцца ў зоне АТА».

Сітуацыя дэманструе ўсю гнілату сістэмы, што разбуралася 23 гады і праз год пасля рэвалюцыі і ахвяр не зведала кардынальных змен.

Улада павінна зразумець, што калі карупцыя і супрацоўніцтва крыміналу з сілавікамі не будзе пераадолена ў самыя кароткія тэрміны, то загарэцца можа не толькі запраўка ў Мукачаве, але і Адміністрацыя прэзідэнта. Пад якую «Правы сектар» ужо, дарэчы, паабяцаў прывесці ўсе свае батальёны».

**Паводле «Украінскай праўды»**

# З Ірана знятыя санкцыі. Што гэта значыць?

У аўторак інфармагенцтвы паведамілі, што краіны «шасцёркі» дамовіліся з Іранам адносна **ядзернай праграмы.**

Крыніцы агенцтва расказалі, што па выніках перамоваў у Вене бакі ўрэшце паставілі кропку ў доўгім дыпламатычным супрацьстаянні — паміж «шасцёркай» (ЗША, Вялікабрытанія, Францыя, Кітай, Расія, Германія) і Іранам заключанае канчатковае пагадненне, якое прадугледжвае скасаванне ўсіх санкцый супраць Ірана ў абмен на тое, што гэтая ісламская рэспубліка абавязваецца цягам 15 гадоў не праводзіць работ па перапрацоўцы ядзернага паліва. Апроч таго, запасы нізкаўзбагачанага ўрану ў Іране цягам гэтага часу не павінны перавышаць 300 кілаграмаў.

«Уся гэта цяжкая праца апраўдала сябе, і мы дасягнулі дамоўленасці», — заявіў журналістам адзін з дыпламатаў, які браў удзел у перамовах.

Таксама пасля навінаў з Вены сусветныя цэны на нафту панізіліся на 2%. Але далейшага паніжэння чакаць не варта. Прынамсі, так мяркуе палітолаг і эканаміст Сяргей Чалы, які не падзяляе пазіцыю некаторых экспертаў, што прадказваюць далейшае падзенне цэн.

«Рынак нафты адрэагаваў на паспяховыя перамовы яшчэ тады, калі цана ўпала з 70 да 55 даляраў за барэль, — сказаў Чалы ў каментары «Нашай Ніве». — Проста некаторыя людзі спадзяваліся, што перамовы пройдуць паспяхова, яны зрабілі стаўку на правільнасць гэтага сцэнару. Ды і аб'ёмы нафты ў Ірана не такія, каб глабальна ўплываць на сітуацыю».

Паводле палітолага, сітуацыя з іранскімі пагадненнямі не зусім такая, як яе апісваюць некаторыя медыя.

«Насамрэч, у выніку парушэння гэтай дамовы іранскім бокам у ЗША развязваюцца рукі ледзь не да ўжывання войскаў. Таму, уласна, рэспубліканцы і не былі супраць таго, што такі, здавалася б, буйны палітычны поспех дастаецца дэмакратам. Сітуацыя робіцца нават больш небяспечнай, таму што з'яўляецца рэальная рызыка ў выніку разрыву пагаднення. Гэта кепска з гледзішча сусветнай бяспекі, а нестабільнасць у гэтым рэгіёне заўсёды выклікае адваротны сцэнар — павышэнне цэнаў на нафту», — перакананы эксперт.



**Кіраўнік МЗС Ірана Махамад Джавад Зарыф абвяшчае аб пясняховым сканчэнні перамоваў.**

Афіцыйных каментароў іранскага боку з нагоды падпісання дамовы што да спынення ядзернай праграмы яшчэ не было.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Пяць краін звярнуліся ў ААН з просьбай стварыць трыбунал па MH-17

Расія **супраць.**

Аўстралія, Бельгія, Малайзія, Нідэрланды і Украіна афіцыйна звярнуліся ў Раду Бяспекі ААН з просьбай стварыць міжнародны крымінальны трыбунал для прыцягнення да адказнасці вінаватых у катастрофе самалёта «Малайзійскіх авіяліній» над Данбасам 17 ліпеня 2014 года.

Пра гэта гаворыцца ў паведамленні ўкраінскага прадстаўніцтва пры ААН.

Пасажырскі самалёт быў збіты над Данецкай вобласцю 17 ліпеня 2014. На думку экспертаў, судна збілі з расійскай установкі «Бук», якая кіравалася экіпажам расійскіх вайскоўцаў.

Супраць стварэння трыбунала выступае Расія, хоць яна і абвінавачвае ў катастрофе ўкраінскіх вайскоўцаў.

У каментары на сайце МЗС Расіі гаворыцца пра «дачаснасць і контрпрадуктыўнасць пастаноўкі пытання аб стварэнні міжнароднага трыбунала па катастрофе» MH-17.

**ЗП**

# Яны б і Кебіча не зарэгістравалі

**Ініцыятыўную групу Аляксандра Прушынскага не хочуць рэгістраваць, бо граф нарадзіўся ў Заходняй Беларусі.**

У юрыдычным аддзеле ЦВК «Нашай Ніве» патлумачылі, што ініцыятыўная група графа Аляксандра Прушынскага не можа быць зарэгістравана паводле арт. 57 Выбарчага кодэкса і арт. 8 закона «Аб грамадзянстве».

Справа ў тым, што прэзідэнтам Беларусі можа стаць толькі грамадзянін Беларусі па нараджэнні. Хто ж ім лічыцца?

Грамадзяне, якія нарадзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі (тут да Прушынскага пытанняў не ўзнікае, бо ён нарадзіўся ў маёнтку Вялікая Рагозніца на тэрыторыі сучаснага Мастоўскага раёна), з'яўляюцца грамадзянамі СССР па нараджэнні і атрымалі грамадзянства Беларусі да ўступлення ў сілу закона «Аб грамадзянстве». А вось з апошнім пунктам выходзіць загвproduced. Закон быў прыняты 1 жніўня 2002 года. А граф Аляксандр Прушынскі атрымаў беларускае грамадзянства толькі ў 2008 годзе.

Таму, паводле сённяшняга заканадаўства, Прушынскі сапраўды не можа быць зарэгістраваны ў якасці кандыдата на прэзідэнцкія выбары, але на мясцовыя ці парламенцкія — без праблем. Дарэчы, атрымліваецца, што на сённяшніх выбарах маглі б не зарэгістраваць колішняга прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, які нарадзіўся ў 1936-м у Навагрудскім ваяводстве, яшчэ за польскім часам.

Аляксандр Прушынскі нарадзіўся ў 1934 годзе на Гарадзеншчыне. Да 1992 года жыў у Канадзе. Пасля пераехаў у Беларусь, дзе ў трэці раз пабраўся шлюбам. Кажа, што на канадскую пенсію ў Беларусі адчувае сябе вельмі камфортна. Прушынскі спрабаваў зарэгістравацца кандыдатам яшчэ ў 1994 годзе. Зрэшты, Прушынскі — гэта проста бяззлобны дзядуля-летуценнік, які гаворыць на цудоўнай беларуска-польска-рускай трасянцы, а не палітык. Але прынамсі адна карысць ад бясконцага вылучэння Прушынскага ў прэзідэнты выявілася — гэткі юрыдычны казус.

**Зміцер Панкавец**



**Цытата**

### Калякін: Улады могуць вызваліць Статкевіча да выбараў



Старшыня Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін мяркуе, што ўлады выпусцяць на волю кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалая Статкевіча. Пра гэта ён паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН.

«У хуткім часе Статкевіч можа апынуцца на волі, — сказаў ён. — Але гэта зусім не ў сувязі з тым, што пад яго вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты зараз фарміруецца ініцыятыўная група».

Паводле слоў Калякіна, уладам «вельмі трэба, каб адбылася легітымацыя выбараў, а наяўнасць палітвязняў з'яўляецца вельмі вялікай перашкодай на шляху да гэтага». «Пра гэта гавораць нашым уладам усе еўрапейскія і амерыканскія палітыкі, якія прыязджаюць у Беларусь. Улады добра ведаюць, што гэта пытанне з'яўляецца для Захаду вельмі адчувальным. Думаю, яны пойдуць на яго вырашэнне», — сказаў ён.



## Арганізатар мядовых кірмашоў прагне ўлады

Пра свае прэзідэнцкія амбіцыі таксама абвясціў Юрый Радзькоў — дырэктар кампаніі «Цар-мёд», аўтар міжнароднага праекта «Свет мёду і здароўя».

Юрый Радзькоў нарадзіўся 12 красавіка 1976 у Віцебскай вобласці. Вырас у дзіцячым доме. Шахматыст, скончыў Універсітэт фізічнай культуры. Быў памочнікам дэпутата-славянафіла Сяргея Касцяна, працаваў у БПСМ і БРСМ.

З 2006 года праводзіць фестываль «Свет мёду і здароўя».

Сёлета Міністэрства гандлю забараніла правядзенне 26 ягоных кірмашоў мёду, маўляў, парушаліся санітарных нормы падчас папярэдніх выставаў. Выглядае, пасля гэтага Радзькоў і задумаў сваю палітычную кампанію

**ЯМ**

## Віктар Цярэшчанка чацвёрты раз хоча стаць спарынг-партнёрам на выбарах

«Спадзяюся, што ў ініцыятыўную групу ўвойдзе 1500—3000 чалавек. Гэта ўсё прагрэсіўныя людзі, усе працуючыя, але яны хочуць нешта змяніць у краіне», — кажа 65-гадовы прадпрымальнік Цярэшчанка.

Чаму ён вырашыў узяць удзел у выбарах? «Гэта цяжкі момант. Быў сапраўдны бой у сям'і. Вы ж разумееце, што апроч страт здароўя і сродкаў гэта нічога не прыносіць. Але трэба разумець, што галоўнае сёння — гэта не кавалак хлеба, а будучыня нашых дзяцей».

Што тычыцца каардынацыі з апазіцыйнымі кандыдатамі, то Цярэшчанка кажа, што трымае сувязь з Таццянай Караткевіч і Сяргеем Калякіным. «Размаўлялі па тэлефоне з Сяргеем Гайдукевічам. Трэба разумець, што з усімі магчымымі кандыдатамі ў нас адзінства поглядаў, вядома, будзем каардынавацца, дапамагаць адно аднаму».

Віктар Цярэшчанка ўжо ў чацвёрты раз вылучаецца кандыдатам у прэзідэнты. У 1994-м і 2001-м ён не сабраў неабходныя 100 тысяч подпісаў. Зарэгістраваны Цярэшчанка кандыдатам быў толькі аднойчы — у 2010-м. Тады ён быў адзіным кандыдатам, апроч Лукашэнкі, якога не арыштавалі і не затрымалі ў ноч пасля выбараў.

**ЗП**



## Слесар, ветэрынар, дэпутат

**Кіраўніком ініцыятыўнай групы Лукашэнкі стаў Міхаіл Орда.**



Міхаілу Орду 48 гадоў. Ён нарадзіўся ў Дзятлаве. А першым месцам працы быў калгас «Расія» ў Дзятлаўскім раёне (СПК з такой назвай існуе па сённяшні дзень), дзе Орда быў слесарам. Скончыў новы кіраўнік прафсаюзаў Віцебскі ветэрынарны інстытут, а таксама Расійскую акадэмію кіравання пры прэзідэнце Расіі.

У 2003 годзе Міхаіл Орда ўзначаліў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, адну з самых масавых арганізацый у краіне. Аднак добра вядома, як ствараецца гэтая масавасць. Студэнты ўступалі ў шэрагі БРСМ у прымусова-добраахвотным парадку. Інакш яны маглі не атрымаць месца ў інтэрнаце ці мець праблемы з размеркаваннем. Абы адчапіліся.

Таксама Орда двойчы быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў. Спачатку ў 2000 годзе ён быў «абраны» ад Лідскай сельскай акругі. А ў 2008 — па Дзятлаўскай.

Ад кастрычніка 2014 Орда ўзначальвае Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі.

**ЗП**

## Дзмітрый Ус: «Я заўсёды быў за рускі свет»

**Экс-кандыдат у прэзідэнты не збіраецца ўдзельнічаць у сёлетняй кампаніі.**

«Няўжо вы не разумееце, што выбараў няма? — рытарычна пытае Ус. — Я ў цырку не ўдзельнічаю, дурыць людзей не збіраюся, як робяць вашы СМІ».

На заўвагу, а ці былі яны ў 2010 годзе, прадпрымальнік адказаў: «Я ішоў тады на выбары, каб растлумачыць, што іх няма. Хто хацеў — той пачуў».

Дзмітрый Ус расказаў, што цяпер робіць сайт «Беларуска-расійскіх навін». «Хутка запрацуе на поўную», — сказаў ён.

Кантэнт новага сайта Дзмітрыя Уса даволі спецыфічны. У прыватнасці, друкуецца відэа фэйка расійскай прапаганды, дзе нібыта «нацысты з «Азова» распялі апалчэнца і спалілі жыўцом».

«Я за рускі свет у Беларусі, — кажа Ус. — Я заўсёды быў за рускі свет». На думку прадпрымальніка, Лукашэнка не з'яўляецца часткай рускага свету. «Але я найперш чакаю зменаў у эканоміцы, а не палітыцы. Колькі можна ўжо будаваць рынкавы сацыялізм, людзі становяцца бяднейшымі штодня».

**ЗП**

## Прадпрымальнік-будаўнік з Мінска Уладзіслаў Цітовіч таксама хоча стаць прэзідэнтам

«Усё, што я раблю, раблю зыходзячы са сваёй грамадзянскай пазіцыі. За мной не стаіць ні апазіцыя, ні ўлада. У маю ініцыятыўную групу ўваходзяць сябры са школы, універсітэта, калегі».



Цітовіч кажа, што ўжо мае неабходных 100 чалавек для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, але сам разумее, што гэтай колькасці недастаткова, каб сабраць 100 тысяч подпісаў. «У 2012 годзе падчас парламенцкіх выбараў я сам абышоў 6 тысяч кватэр, дзе змог сабраць толькі 600 подпісаў». Цяпер Цітовіч працягвае набор людзей у ініцыятыўную групу. Па ягоных словах, ці будзе ён рэгістраваць ініцыятыўную групу, залежыць ад таго, колькі людзей запішацца ў яе.

Уладзіслаў Цітовіч нарадзіўся ў 1976 у Мінску. Скончыў БНТУ. Гадуе двух сыноў (9 і 5 гадоў). Жонка працуе доктарам-эндакрынолагам у 1-й клінічнай бальніцы Мінска. Беспартыйны. У 2006-м збіраў подпісы за Аляксандра Мілінкевіча, у 2010-м — за Яраслава Раманчука. Ён кажа, што расчараваўся ў апазіцыі пасля 2010 года.

Прадпрымальнік някепска размаўляе па-беларуску. «Я ўсё жыццё размаўляў па-руску, але не так даўно ў мяне з'явілася разуменне, што беларусы павінны ўмець размаўляць на сваёй мове».

Цітовіч быў заснавальнікам фірмы «Ведуус-сэрвіс», якая займалася рамонтам ноўтбукаў. Цяпер ён спрабуе свае сілы ў будаўнічым бізнэсе.

**ЗП**

# Адзін дзень з Таццянай Караткевіч

«Нам, пенсіянерам, усё адно. За каго прынясуць, за таго і галасуем». Карэспандэнт «НН» **з'ездзіў у Бялыніцкі раён** з імавернай кандыдаткай.



УЛАДЗІСЛАЎ ШВЯДОВІЧ

Серабрысты мікрааўтобус «Фальксваген» ад'язджае з Мінска а 8 раніцы. У ім — магчымы кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч, каардынатар рэгіянальных паездак яе штаба, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў і блогер Антон Матолька, які, як высветлілася, даўні знаёмы Таццяны. Сёння яны накіроўваюцца ў Бялыніцкі раён Магілёўскай вобласці.

«Мы параўноўваем жыццё ў гарадах і вёсках. Чаму людзі з'язджаюць з сяла? Няма працы, няма інфраструктуры. Мы едзем, каб уявіць маштаб катастрофы, данесці гэта да людзей і падмацаваць нашу праграму», — кажа Караткевіч.

Будучы кандыдат ездзіць па чатыры дні на тыдзень. За дзень да гэтага Караткевіч была ў Маладзечне, за два — у Вілейцы, а праз дзень будзе ў Магілёве.

Улады ў паездках не перашкаджаюць.

«Вось учора мы дамаўляліся сустрэцца з рабочымі Маладзечанскага завода металаканструкцый, — кажа Лялькоў. — Рабочыя гэтыя вядомыя тым, што нядаўна пасля чарговага затрымання заробку зладзілі страйк. Але, нягледзячы на дамову, чалавек, з якім мы звязваліся проста перастаў падымаць слухаўку».

Па дарозе Таццяна і кампанія абмяркоўваюць план на дзень, гутараць пра тое-сёе. Матолька прапануе Таццяне надзець *Google Glass* і весці жывы эфір, каб выбаршчык пры жаданні мог у анлайне паглядзець, чым займаецца яго кандыдат.

Праз дзве гадзіны мікрааўтобус спыняецца ў Бялынічах. Нас сустракае Алег Мяцеліца, мясцовы прадпрымальнік, актывіст кампаніі «Гавары праўду», які распрацаваў маршрут. Кароткі перапынак на каву — і мы накіроўваемся ў вёску Гута. Там знаходзіцца лецішча, якое ўлады канфіскавалі ў Васіля Старавойтава, грамадска-палітычнага дзеяча, двойчы Героя сацыялістычнай працы.

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Старавойтаў скептычна ставіўся да Лукашэнкі, публічна крытыкаваў яго і не падтрымаў на выбарах 1994 года. У кастрычніку 1997 года Старавойтаў, які на той момант узначальваў пераўтвораны ў акцыянернае таварыства калгас «Рассвет», быў адхілены ад працы і арыштаваны, асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі. У 2013 ён памёр.

Цяпер яго былое лецішча знаходзіцца ў сумным стане. Вялікі двухпавярховы будынак стаіць нікому не патрэбны. Дошкі на другім паверсе прагнілі, унутры падлога абсыпаная бітай цэглай. Караткевіч адразу грукаецца ў дзверы суседзяў па ўчастку. Басаною выходзіць старая.

«Галя», — прадстаўляецца яна.

Старую распытваюць пра канфіскацыю лецішча («Нічога не ведаю», — кажа яна), пра вясковыя праблемы. Антон Матолька робіць фоты. Бабуля скардзіцца на суседскую пасеку: «Пчолы кусаюць». Мяцеліца ўзгадвае, што па законе ў жылой зоне нельга трымаць многа пчаліных дамкоў. Старой абяцаюць дапамагчы.

«А што з вёскай?» — пытаецца Таццяна.

Палова дамоў стаіць пустая, апавядае баба Галя. З тых што ёсць, большасць выкупілі дачнікі. Кажа, сын даглядае скаціну ў суседняй вёсцы. Працы няма. Пенсію даюць — і добра. Муж моцна хварэе, цяпер у бальніцы: «Напэўна, хана будзе».

Караткевіч уручае бабулі сваю ўлётку і паведамляе, што збіраецца ўдзельнічаць у выбарах.

«Гэта як Лукашэнка будзеце? — пытае бабуля. — Добра... Калі да выбараў не загнемся...»

Пытаюся, за каго яна галасавала ў 2010. «За Лукашэнку, — адказвае старая. — Нам, пенсіянерам, усё адно. За каго прынясуць, за таго і галасуем».

Далей едзем у суседнюю вёску Барок, да стрыечнай сястры Старавойтава. У машыне я пытаюся ў Караткевіч, у чым быў сэнс візіту на тое лецішча.

«Па-першае, мы пагаварылі з чалавекам. Да таго ж мы пабачылі, як улада абышлася з той маёмасцю Старавойтава. Яны замест таго, каб стварыць аграсядзібу, стварыць хоць некалькі працоўных месцаў і захаваць памяць пра выбітнага чалавека, усё проста зруйнавалі», — тлумачыць Таццяна.

Па дарозе заўважаем трох пажылых мужчын на лаўчацы каля хаты. Спыняемся, Таццяна ідзе знаёміцца. Пацiскае кожнаму руку. Высвятляецца, што дзядзькі чакаюць аўталаўку.

«Ну, што думаеце ўвогуле пра жыццё?» — пытаецца Караткевіч.

Ёй ніхто не адказвае. Тады яна пытаецца: «Пенсія?»

«Да...» — цягне адзін з мужыкоў.

«Хапае пенсіі?»

«Калі шашлыкоў не рабіць, то хапае», — смяюцца дзядзькі.

«Лукашэнка сюды не прыязджаў, напэўна?» — пытаецца Алег Мяцеліца.

«Ды што ён, паедзе ў гэтую глуш?»

«А мы прыехалі!» — кажа Мяцеліца і раздае ўлёткі.

«Нешта тут вельмі поўненькая, а жыўцом — прыгажуня, — азнаёміўшыся з улёткай, кажа адзін з мужчын. А пасля цікавіцца: не будзе такая, як Парашэнка?»

З жартамі Мяцеліца абяцае, што не будзе.

Затым трохі абмяркоўваюць тое-сёе: ці ёсць тэлебачанне («ёсць»), ці ёсць тэлефон («ёсць мабільнікі»), ці трымаюць жывёлу («катоў вельмі многа», — жартуюць мужыкі).

«Што хочаце сказаць? — пытае на развітанне Караткевіч. — Я змагу сказаць гучна пра вашы праблемы, пра вашы пажаданні».

«Якія тут пажаданні! — кажуць дзядзькі. — Сядзі, скрыпі — ды і ўсё».

Да гутаркі далучаецца жанчына — ці то суседка, ці то сваячка аднаго з мужыкоў. Знаёмства з Караткевіч яна ўспрымае пазітыўна, праўда, прызнаецца, што на мінулых выбарах галасавала за Лукашэнку. Але, кажа жанчына, на гэтых ужо трэба падумаць. Караткевіч пытаецца, ці прагаласуе тая за яе.

«Спачатку праграму трэба паглядзець», — мяркуе жанчына.

«Што там глядзець, адразу давай!» — крычыць ёй адзін з мужыкоў.

Затым заязджаем да Вольгі Барысаўны, сястры Васіля Старавойтава. Караткевіч размаўляе з ёй пра яе жыццё, брата, цікавіцца праблемамі. Вольга Барысаўна скардзіцца, што ніхто не прыбірае мясцовыя могілкі, Таццяна абяцае дапамагчы. Нечакана каля хаты спыняецца машына — з візітам да старой завітала дзве супрацоўніцы сацыяльнай службы. Чатыры разы на год яны павінны наведваць пажылых людзей, пэўна, ці не патрэбна ім дапамога. Караткевіч, як былы сацыяльны работнік, адразу завязвае з імі гутарку: ці хапае людзей, як заробкі. Па іх словах, усё больш-менш нармальна.

Жанчыны таксама атрымліваюць улёткі, абяцаюць іх пачытаць. На пытанне, за каго будуць галасаваць, адказваюць: «Паглядзім».

Я пытаюся, ці ведаюць яны кагосьці з патэнцыйных кандыдатаў.

«Ну вось, ведаем ужо аднаго», — кажа адна з сацработніц, паказваючы ўлётку.

Неўзабаве мы з'язджаем. Караткевіч вырашае наведаць Лебядзянкаўскі сельсавет, каб перадаць скаргі ўладам. Едзем у Лебядзянку. Дзверы ў сельсавет адчыненыя, але там няма ні душы, толькі на зачыненым кабінеце налеплена маленькая паперка, што кіраўніцтва ў адпачынку. У пункце аховы правапарадку, які знаходзіцца там жа, таксама пуста. Караткевіч вырашае зайсці ў госці да адной з мясцовых дэпутатак, тым больш што тая, як высветлілася, жыве зусім побач. Жанчына трохі здзіўленая нечаканым гасцям, але сустракае і размаўляе ветліва. Праблемы з пасекай і могілкамі абяцае вырашыць.

Затым — вяртанне ў Бялынічы і абед. Пасля Таццяна Караткевіч з паплечнікамі без папярэджання накіроўваюцца ў мясцовы райвыканкам. Заходзяць да мясцовага ідэолага Ірыны Фурсавай. Яна прымае візіцёраў спакойна, выслухоўвае, старанна пазначае нешта ў штодзённіку. Даведаўшыся, што Караткевіч збіраецца ісці ў прэзідэнты, кажа: «Прыемна, што жанчына балатуецца на такую пасаду!»

Па яе словах, з могілкамі ўсё нармальна, перад Радуніцай іх прывялі ў парадак. З лецішчам Старавойтава і пасекай, на якую скардзілася баба Галя з Гуты, Фурсава абяцае разабрацца. Ёй пакідаюць улёткі, візітоўкі і развітваюцца. Перад тым, як сысці, затрымліваюцца ля вялікай дошкі з партрэтамі былых кіраўнікоў райвыканкама.

«Той — пракраўся, — паказвае Алег Мяцеліца. — Гэты — крадзе».

Наступны пункт — Цяцерынская ГЭС на рацэ Друць. Па дарозе да Караткевіч і К далучаецца Пятро Шымбалёў, яшчэ адзін мясцовы актывіст «Гавары Праўду». Ён расказвае, што апошнія гады гідраэлектрастанцыя на Друці прыносіць больш шкоды, чым карысці.

«Яны так карыстаюцца плацінай, што рака хутка загіне. Бывае, умоўна кажучы, зранку вельмі высокі ўзровень вады, увечары — амаль няма. З-за гэтага рака абмялелая, вымываюцца ўсе ямы, — кажа Шымбалёў. — Падчас нерасту працу плаціны не спыняюць, хаця яна абслугоўвае сёння адну толькі ферму. У выніку рыба знікае — яна адкладае ікру, а потым ваду спускаюць, ікра трапле на бераг, на плыткаводдзе, і тое, што не гіне само, з'ядаюць качкі і гусі».

Вось толькі на ГЭС нікога з супрацоўнікаў не аказваецца. Праз вокны бачна, што механізмы працуюць, але дзверы зачыненыя, на грук ніхто не выходзіць. Нягледзячы на невялікі дождж, Караткевіч з паплечнікамі спускаюцца бліжэй да каламутнай зялёнай вады, дзе самотны дзядзька закідвае вуды. Але ён ніякага дачынення да ГЭС не мае — звычайны рыбак. Ён таксама расказвае пра праблемы з рыбай.

«Да таго ж сюды паскідвалі бруд, калі паглыблялі вадасховішча, — сцвярджае ён. — І рака ўжо не можа сама сябе чысціць, дно ўсё больш і больш пераўтвараецца ў балота».

Таццяна Караткевіч просіць у яго вуду — паспрабаваць. Закідвае — і адразу выцягвае невялікага акуня. «Акуні такое надвор'е любяць», — тлумачыць гаспадар вуды. Рыбу аддаюць яму.

Пасля Караткевіч з паплечнікамі вяртаюцца ў Бялынічы. Там Таццяна сустракаецца з людзьмі, якія вырашылі ўступіць у яе ініцыятыўную групу: размаўляе, дзякуе, фатаграфуецца. На сёння гэта ўсё — заўтра чакае Магілёў.

Паездка насамрэч выдалася цяжкай, сіл ужо амаль няма. Але ці будзе ад яе плён? Алег Мяцеліца сцвярджае, што так. Па яго словах, нават калі пагутарыш з адным чалавекам, чуткі потым пойдуць і па ўсіх астатніх.

«З двума сустрэўся — лічы ўсю вёску ахапіў», — кажа ён.

**Улад Швядовіч,**
**Бялыніцкі раён — Мінск**

# Возера Машэнскага, бор Шакуціна, курорт Чыжа

На чым зарабляюць беларускія мільянеры?

Плынь турыстаў, якія прыязджаюць на адпачынак у Беларусь, змялела праз крызіс у Расіі. Аднак патэнцыял «цуду некранутай прыроды» застаецца вялікім. Яго спрабуюць выкарыстоўваць беларускія мільянеры. Якія праекты яны рэалізуюць і колькі плацяць у бюджэт за арэнду лясоў і азёр?



Элітны гатэль Машэнскага паўстаў проста пасярод лесу.

### Возера Машэнскага

Вось ужо некалькі гадоў жыхары Брэста наракаюць, што не могуць адпачыць на сваім любым Белым возеры. На вадаём, які знаходзіцца за 35 км ад абласнога цэнтра, іх не пускаюць ахоўнікі: маўляў, прыватная тэрыторыя.

Зямлёй карыстаецца самы вядомы брэсцкі бізнэсмен — Аляксандр Машэнскі, уласнік рыбнага «Санта-Брэмара» і малочнага «Савушкавага прадукту». Яшчэ ў 1990-я гэтыя 2,5 гектара водаахоўнай зоны Белага возера атрымала Брэсцкая райспажыўкааперацыя, аднак у 2008 годзе перапрадала яе Машэнскаму, які вырашыў заняцца турыстычным бізнэсам.

Непадалёку ад возера ён пабудаваў люксавую базу адпачынку «Шале Грынвуд» (можна перакласці як «сельскі домік у швейцарскім стылі, пабудаваны ў зялёным лесе»). Гэта два дзясяткі гатэльных нумароў, а таксама рэстаран італьянскай кухні і лазня. За начоўку гаспадары просяць нямала — $80. Аднак госці застаюцца задаволенымі. У папулярным інтэрнэт-каталогу гатэляў *booking.com* «Шале Грынвуд» мае адзнаку 9,4 па 10-бальнай сістэме.

Машэнскі наракаў, што яму давялося ўкласці шмат грошай у інфраструктуру. Аднак умовы, на якіх ён летась атрымаў у арэнду яшчэ 8,5 гектара зямлі, выглядаюць звышвыгаднымі.


«Робінсан Клаб» — адзін з самых дарагіх клубаў краіны.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

За велізарны абшар лесу з выхадам да возера бізнэсмен плаціць... каля $110 на месяц. Дамова арэнды заключаная на 100 гадоў у беларускіх рублях, такім чынам, інфляцыя патрохі з'ядае і гэтыя грошы.

### Яхт-клуб Тапузідзіса

Грэк Павел Тапузідзіс, які нарадзіўся ў Грузіі, таксама аблюбаваў беларускія азёры. У канцы 2000-х ён узяўся пабудаваць аздараўленчы комплекс на возеры Мядзел, суседнім з Нараччу. Аднак у выніку атрымалася толькі нешта падобнае на прыватную рэзідэнцыю. Адпачыць звычайнаму турысту на турыстычнай базе Тапузідзіса не ўдасца. За 90 сотак, адведзеных для будаўніцтва, кампанія «Тытунь-Інвест» штогод плаціць за зямлю «,87 USD». Акурат так, з коскай на пачатку (падрабязнасці гэтай гісторыі «Наша Ніва» пісала ў №32 за 27 жніўня 2014 года).

Затое іншы турыстычны аб'ект Тапузідзіса, гатэль «Робінсан Клаб» на беразе Мінскага мора (Заслаўскага вадасховішча), адкрыты для наведнікаў з 2011 года. Напрыклад, тут звычайна спыняецца футбольная зборная Беларусі.

Пракат яхт, катароў і нават верталётаў — такі набор забавак знойдзецца мала дзе ў Беларусі.


Пражыванне ў віп-катэджы ў «Лагойску» каштуе $260 за дзень.

А яшчэ ў «Робінсан Клабе» ёсць свая канцэртная пляцоўка.

Тапузідзіс арандуе зямлю, каля 10 гектараў, на традыцыйныя 99 гадоў. І плаціць нямала — больш за $18 тысяч у год, прычым у валюце.

### Гарналыжны курорт Чыжа

Гарналыжны комплекс «Лагойск», які належыць самаму багатаму беларускаму бізнэсмену Юрыю Чыжу, адкрыўся дзесяць гадоў таму. «Лукашэнка катаўся на лыжах у расійскай Краснай Паляне і літаральна загарэўся ідэяй стварэння такога цэнтра ў нас. Сказаў мне: «Юра, там мне аўстрыйцы ўвесь час мазгі дураць наконт будаўніцтва ў Лагойску гары, з'ездзіў бы ты, паглядзеў на тыя месцы і прыкінуў, што там можна зрабіць». Я прыкінуў іх моцныя і слабыя бакі, каб чужых памылак не паўтараць, а калі саспеў канчаткова, сказаў прэзідэнту, што «Трайпл» за гэта возьмецца. Прэзідэнту мае довады здаліся пераканаўчымі, і ён даў дабро», — расказваў Чыж гісторыю стварэння «Лагойска». У склад комплексу ўваходзяць гатэль і рэстаран. Цікава, што за зямлю Чыж не плаціць. Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі бізнэсмен атрымаў 50 гектараў у пастаяннае карыстанне.

Іншае рашэнне кіраўніка дзяржавы датычылася будоўлі на малой радзіме мільянера, каля вёскі Сабалі Бярозаўскага раёна.

Паводле ўказа, «турыстычны культурна-этнаграфічны комплекс «Наш родны кут Сабалі» меўся быць дабудаваным у 2015 годзе. Пад будоўлю Чыжу выдзялялася 333,4 гектара зямлі.

Аднак замаруджаным тэмпам працы мільянер пакуль што не дае рады. Створаная ім кампанія «Буслоўка» арандавала ўсяго каля 10 гектараў (штогадовая плата — каля 22 мільёнаў рублёў). У полі відаць толькі запраўку ды некалькі хатак.

### Паляванне Шакуціна

Чым можа пахваліцца Аляксандр Шакуцін, дык гэта самым статусным кіраўніком свайго турыстычнага бізнэсу. Сёлета кампанію «Шантэр» (расшыфроўваецца як «Шыкоўны Адпачынак На ТЭрыторыі Радзімы») узначаліла Наталля Пяткевіч, былая памочніца Аляксандра Лукашэнкі.

Кампанія аб'яднала некалькі турыстычных аб'ектаў, раскіданых па ўсёй краіне. Шакуціну і ягоным бізнэс-партнёрам належаць база адпачынку «Рудакова» на Нарачы (дарэчы, побач з рэзідэнцыяй Тапузідзіса), санаторый «Пралеска» пад Мінскам і дзіцячы лагер «Даманава» ў Маладзечанскім раёне. Гэтыя аб'екты знаходзяцца на балансе «Амкадора» ўжо даўно.

А вось апошнім часам Шакуцін і яго наваполацкі кампаньён Мікалай Варабей спецыялізуюцца на паляванні і рыбалцы. Яны ў роўных долях валодаюць кампаніяй «Інтэрсэрвіс», якая арандуе 58,6 тысячы гектара тэрыторыі заказніка «Чырвоны Бор» ў Верхнядзвінскім і Расонскім раёнах.

Ласі, дзікі, казулі — лік жывёлаў ідзе на сотні. Агучваліся нават планы разводзіць зуброў. Знаходжанне ў гэтым раі для паляўнічага каштуе дорага. Цэны ў мясцовым гатэлі пачынаюцца ад $200 за ноч.

Асобная крыніца даходаў — платная рыбалка. Для гэтых мэтаў «Інтэрсэрвіс» арандаваў шэсць азёраў непадалёку ад мяжы з Расіяй.

**Ягор Марціновіч**



«Чырвоны бор» знаходзіцца на самай поўначы Беларусі.

### Сцісла

**Беларусь папрасіла ў Расіі $3 мільярды**

Рашэнне будзе прынята ў найбліжэйшы час. Апроч таго, у ліпені Беларусь атрымае $760 мільёнаў, другую частку ранейшага крэдыту.

**177 магазінаў «Дабраном» зачыненыя на тры месяцы**

Паводле рашэння Міністэрства гандлю, з 21 ліпеня не будуць працаваць крамы «Дабраном». Прычына — пратэрмінаваная запазычанасць перад пастаўшчыкамі. Кампанія ўзяла крэдыты, каб расплаціцца па даўгах, і цяпер спадзяецца на адмену рашэння Мінгандлю.

**Бізнэсмен Ісаеў выкупіў «БелГазету»**

Уладальнік кампаніі «ГЦ Снамі» Сяргей Ісаеў выкупіў 75%-ую долю «Белгазеты» ў расійскага «Выдавецкага дома «Камсамольская праўда». Ён плануе захаваць папяровую версію газеты і паралельна праз два месяцы вывесці прадукт у інтэрнэт.

**ЯМ**

# «Мерыдыян надзеі» праходзіць праз сэрца

Рэпартаж з адзінага ў Беларусі цэнтра псіхалагічнай дапамогі хворым на рак.

«А хто ведае песеньку пра капітана? Мне яе ў дзяцінстве спяваў тата. І калі мне цяжка ў жыцці, я яе сабе напяваю!» — прапануе Алена. Усе пагаджаюцца. Валанцёрка Лера адразу пачынае напяваць: «Жил отважный капитан, он объездил много стран...» Прыпеў — «Капитан, капитан, улыбнитесь!..» — спяваюць усе разам.

У пакойчыку ўжо некалькі гадзін стаіць гоман, сыплюцца жарты, гучаць песні. Удзельніцы гомельскага цэнтра «Мерыдыян надзеі» абмяркоўваюць наступны выступ перад хворымі на анкалогію ў мясцовым дыспансеры. Што такое анкалогія, яны і самі добра ведаюць. Нават занадта добра — у чатырох з сямі жанчын быў рак.

«Значыць, спяваем пра капітана, потым Наталля выступае, расказвае пра свой вопыт: як былі рэцыдывы, як яна змагалася», — кажа Алена.

«Я магу яшчэ вершы прачытаць», — прапануе Наталля.

«Добра», — пагаджаецца Алена.

Менавіта з лёгкай рукі Алены тры гады таму і з'явіўся гэты цэнтр. Сёння за гэта ёй удзячныя і дактары-анколагі, і іх пацыенты.

Энергіі ў Алены Давідаўны Зайцавай заўсёды было з лішкам. У маладосці яна скончыла Гомельскі чыгуначны тэхнікум, адпрацавала тры гады ў Маскве, але вярнулася: прызнаецца, што яе трохі палохалі праблемы з жыллём, а ў Гомелі чакала свая кватэра. Вярнуўшыся, Алена ўладкавалася на чыгунку, дзе і прапрацавала 27 гадоў. Аднак у вольны час яе жыццё кардынальна адрознівалася ад звыклай схемы дом-работа.

### «Звязда Давідаўна»

«Якраз развалілся Саюз, усе пачалі займацца бізнэсам. Я і сама ездзіла гандляваць у Польшчу, пазней некалькі разоў наведвала Кітай — набывала тавар, потым прадавала ў Гомелі. Энергіі было шмат — я і мянялася зменамі, тут — брала за свой кошт, там — працавала суткамі. Пасля начной змены трэба было паспець прывесці сябе ў парадак і бегчы на рынак гандляваць. Грошай хапала — зрабіла сабе добры рамонт, ездзіла ў адпачынак. Ездзіла ў Грэцыю — прывозіла знаёмым адтуль футры».

Адначасова Алена вяла імпрэзы, пісала сцэнары і вершы, займалася з дзецьмі ў гомельскай габрэйскай абшчыне, вяла там жаночы псіхалагічны клуб і гуртох па вывучэнні юдаізму. Паралельна вучылася ў Інстытуце вывучэння юдаізму. Карацей, паспявала паўсюль. «У сваім асяродку мяне называлі «Звязда Давідаўна», — смяецца Алена Зайцава. — Але неяк у адзін дзень я зразумела, што грошы ў мяне ёсць — і што? А чаго я хачу на самай справе? Мне стала так сумна і пуста на душы...»

Яна вырашыла змяніць сваё жыццё. Пачала з цыгарэт.

### Курсы каштавалі 500 даляраў, а заробак быў 15

«Думаю: трэба кінуць паліць. І набыла кніжку псіхолага Луіса Дэвіса, з дапамогай якой людзі пазбаўляліся гэтай звычкі». Кніжка дапамагла. Алена, якая заўсёды цікавілася псіхалогіяй, зразумела, што гэта працуе. Яна запісалася на курсы псіхолагаў у Мінску і цягам года ездзіла туды два разы на месяц, на ўсе выходныя.

«Каштавалі курсы даляраў 500. Гэта прытым, што ў мяне зарплата была 15. Плюс у Мінску трэба ж яшчэ недзе пераначыць, нешта з'есці, — узгадвае Алена. — Але я ні разу не пашкадавала. Разам з вучобай я вырашыла шмат уласных псіхалагічных праблем».

Атрымаўшы дыплом, Алена не спынілася. У Гомелі яна запісалася на курсы па практычнай псіхалогіі для псіхатэрапеўтаў і лекараў, пасля наведвала лекцыі, якія чыталі на аддзяленні псіхалогіі ва ўніверсітэце: «Два дні я працую на чыгунцы. Затым два дні праводжу ва ўніверсітэце — слухаю ўсё запар». Але каб паўнавартасна працаваць псіхолагам трэба была вышэйшая адукацыя. І ў 34 гады Зайцава паступіла ў Мінскі камерцыйны гуманітарна-эканамічны інстытут на спецыяльнасць «практычная псіхалогія». Адукацыя была платная. «На першую сесію грошай хапіла. А потым я кожны раз хвалявалася, дзе ж іх узяць. Пасля кожнай сесіі думала: ну ўсё, гэтая была апошняя. На наступную не зараблю», — смяецца Алена.

Але ж інстытут Зайцава скончыла і ўладкавалася псіхолагам на палову стаўкі ў адзін з мясцовых сацыяльных цэнтраў. Праўда, і з касаў не звальнялася: псіхалогія прыносіла задавальненне, але не грошы. Магчыма, мара так і засталася б марай, калі б не здарылася бяда.

### Можна сказаць, пашанцавала

У 2011 годзе Алена вырашыла нарадзіць дзіця. Немалады ўжо век яе не палохаў. Але перад тым як зацяжарыць, яна на ўсякі выпадак вырашыла прайсці падрабязны медагляд.

«Я была як заўсёды занятая. Прыбегла да чарговага доктара — мамолага — мне зрабілі УЗІ. І ўсё. Потым патэлефанавала, каб даведацца, ці ўсё добра. І ўрач кажа: у прынцыпе нармальна... але патрэбная маленькая аперацыя. Не, кажа, гэта не рак».

Аднак гэта быў менавіта рак. У грудзях у Зайцавай знайшлі пухліну. Можна сказаць, што ёй пашанцавала — гэта была яшчэ першая стадыя захворвання. Алене далі тыдзень на падрыхтоўку, затым паклалі на аперацыю.

«Канечне, адразу ў мяне была істэрыка. Я нават пазваніла сяброўцы і сказала, што пакідаю ёй кватэру. Больш мне і пагаварыць не было з кім. Бацькі памерлі, з сястрой на той момант адносіны былі не надта блізкія».

Спачатку Алене сказалі, што лячэнне займае два тыдні. Але толькі ў бальніцы яна ляжала тры тыдні. Потым некалькі тыдняў перапынак — і хіміятэрапія.

«Хімія робіцца па-рознаму. У мяне было 6 курсаў, адзін раз на 21 дзень. Гучыць не страшна, але пасля хіміі ты проста не можаш нармальна функцыянаваць амаль паўтара тыдня. І ваніты, і слабасць — гэта немагчыма апісаць».

Агулам Алена змагалася з хваробай каля 9 месяцаў. Але рашэнне дапамагаць хворым на рак выспела яшчэ ў бальніцы,адразу пасля аперацыі, кажа яна. Бо многія застаюцца сам-насам з дыягназам, як фактычна і сама яна. І што рабіць, куды ісці — невядома. Ёсць толькі ты, хвароба і страх.



Валанцёрка Лера і Алена Зайцава (справа).

### Тут мне сапраўды дапамаглі

Пасля выхаду з бальніцы Алена распавяла пра свае ідэі некальким жанчынам, з якімі пазнаёмілася падчас лячэння. Тыя падтрымалі. Спачатку яны проста наведвалі пацыентаў анкадыспансера, дзяліліся досведам, расказвалі, як трэба ставіцца да захворвання, што будзе пасля хіміятэрапіі, як лягчэй гэта ўсё перанесці. Людзі рэагавалі па-рознаму: хтосьці слухаў, хтосьці ўспрымаў як чарговых «сектантаў».

«На той момант арганізацыі, якія дапамагаюць хворым на рак, былі па ўсім свеце, нават на Украіне. Але ў нас — не было, — кажа Зайцава. — І я вырашыла, што абавязкова ствару ў Беларусі такі цэнтр».

Сёння цэнтр псіхалагічнай дапамогі анкахворым «Мерыдыян надзеі» знаходзіцца ў мясцовым Доме культуры. Увесь цэнтр — гэта пакойчык з двума сталамі і некалькімі шафамі.

Пацыху ў цэнтр пайшлі людзі. Сёння яго ў розны час наведваюць ад 10 да 30 чалавек. Гэта як валанцёры, так і тыя, хто ў свой час прыйшоў па дапамогу, а знайшоў яшчэ і сяброў.

У Наталлі было ўжо дзве аперацыі — спачатку зрабілі адну, але потым рак вярнуўся. Ёй выдалілі некалькі рэбраў, частку лёгкага.

«Быў такі этап, калі мне быў патрэбен хтосьці. Я жыла адна з сынам-падлеткам, і не было нават з кім паплакаць. Ды і хвароба такая — часам проста незразумела, што са мной адбываецца і што будзе далей. Я памру? Я выжыву? А доўгі час знаходзіцца ў такім «падвешаным» стане вельмі і вельмі цяжка, — расказвае Наталля. — Асабліва адной. А тут мяне сапраўды падтрымалі. Я зразумела, што я не адна і што з гэтым можна жыць».

Рак — псіхасаматычная хвароба, падкрэслівае Наталля. Калі чалавек настроіцца, што выжыве, — шанцаў у яго больш.

### Псіхалагічны тэатр

Жанчыны з «Мерыдыяна» збіраюцца амаль штодня. Яны робяць сувеніры, выпускаюць брашуры, як справіцца з хваробай, якія потым раздаюць пацыентам у дыспансеры, ладзяць канцэрты для хворых, працягваюць расказваць, як жыць, калі ў цябе рак. Займаюцца псіхалагічным тэатрам — гэта калі людзі збіраюцца, абмяркоўваюць свае праблемы, знаходзяць супольныя тэмы, а потым на гэтую тэму самі пішуць маленькую п'есу на 10—15 хвілін і ставяць яе, пасля — абмяркоўваюць.

Таксама ў цэнтр запрашаюць псіхолагаў, якія працуюць з пацыентамі і іх блізкімі.

«Калі чалавек хварэе на рак, то прыняць гэта цяжка не толькі яму, цяжка ўсім, хто побач. Аднойчы да нас прыйшла сям'я: маці, бацька і сын. І ў бацькі, і ў сына адначасова знайшлі пухліны ў мозгу. Куды ім было ісці акрамя нас? Няма куды», — кажа адна з заснавальніц цэнтра Таццяна.

Псіхолагі дапамагаюць блізкім справіцца з бядой. Працуюць нават з дзецьмі — ім таксама трэба ўмець патлумачыць, што адбываецца зараз з бацькам ці маці. Тым больш, кажуць жанчыны, нярэдка ад анкахворых пачынаюць адварочвацца сябры і знаёмыя. Нават на працы ўзнікаюць праблемы — проста таму, што ніхто не разумее, што адбываецца з хворым на рак, як ён сябе адчувае — і фізічна, і псіхалагічна.

### Не ператварыцца ў робата

Гомельскі «Мерыдыян надзеі» — адзіны цэнтр у Беларусі, які займаецца псіхалагічнай дапамогай анкахворым. Ні ў дыспансерах, ні ў бальніцах з хворымі на рак псіхолагі не працуюць. А іх дапамога часам патрэбная не толькі пацыентам, а нават і самім дактарам.

«У мінулым годзе я прыйшла на трэнінг, які зладзіў цэнтр. Там дапамагалі дактарам справіцца з праблемай эмацыйнага выгарання, — кажа Вольга. — Так і пазнаёміліся».

Вольга — практыкуючы хірург-анколаг. Яна прызнае, што псіхолагі ў анкалогіі быць павінны.

«Я не толькі раблю аперацыі, а яшчэ і вяду прыём. І паведамляць людзям пра тое, што ў іх рак, а часам і пра тое, што мы нічым ужо не дапаможам — вельмі няпроста. Прымаць усё блізка — немагчыма, не прымаць зусім — ператворышся ў робата, — тлумачыць яна. — А што тычыцца пацыентаў, то доктар ці санітар, можа, і не супраць выслухаць пацыента, пагаварыць з ім, але ён банальна не мае часу».

Пакуль Вольга расказвае, астатнія жанчыны гучна абмяркоўваюць заўтрашні канцэрт. Камусьці даручаюць набыць сцяжкі, камусьці — паветраныя шарыкі.

* * *

Падчас станаўлення цэнтра Зайцава працягвала працаваць на чыгунцы. Затым пэўны час жыла толькі за пенсію па інваліднасці, якую ёй прызначылі пасля захворвання. Сёння яе заробак складае тая ж пенсія плюс невялікія грошы, якія яна атрымлівае, калі ўдзельнічае ў праектах цэнтра як псіхолаг. Сам цэнтр жыве за невялікія і нерэгулярныя замежныя гранты. Ні Мінздароўя, ні мясцовыя спонсары яму не дапамагаюць. «Не перашкаджаюць — і дзякуй Богу», — пасміхаецца Алена.

**Улад Швядовіч, Гомель—Мінск**

# Глуханямы беларус на матацыкле аб'ехаў паўсвету

**Уладзіміру Ярцу 74 гады, ён глуханямы, але аб'ехаў на матацыкле амаль 90 краін свету.**

«Яшчэ ў маленстве, падчас вайны, я быў цяжка паранены — побач з маім домам разарвалася варожая бомба. Так я і страціў слых», — расказвае Уладзімір.

**«НН»: Як Вам прыйшла ідэя вандраваць па ўсім свеце?**

**УЯ:** Калі мне было 6—7 гадоў, вёска была вельмі бедная, пасляваенны час, я першы раз разгарнуў кнігу, не ведаў нават літар, што там напісана. Усе ўжо ў школу хадзілі, а я яшчэ не вучыўся нават. А я глуханямы, настаўнік прыязджаў са спецшколы, казаў, што трэба з'язджаць, таму што «ты становішся дарослым і табе трэба вучыцца». І вось нарэшце мяне забралі ў школу. Я быў самым старэйшым, астатнія былі малодшымі на некалькі гадоў. Я ўсё хутка схопліваў, маё фота было на дошцы гонару. Хлопцы гулялі ў футбол, а мне вельмі падабалася геаграфія. Нават настаўніца прыходзіла і казала, што ўжо скончыліся ўрокі і час ісці дадому ў інтэрнат, а я ўсё роўна заставаўся. Падманваў: хаваўся пад парту, а калі дзверы ў клас зачынялі я вылазіў і вывучаў мапы, атласы. Пабачыўшы, які вялікі гэты свет, я паставіў сабе мэту — пабыць у большасці з гэтых краінаў.

**«НН»: Як ставяцца людзі да Вашага хобі?**

**УЯ:** Па-рознаму. Я лічу, што 95% мяне не разумеюць. І вы здзівіцеся, але нават наш дом інвалідаў па слыху адносіцца да тых, хто не разумее. Там людзі ходзяць на працу, увесь час скардзяцца на жыццё. Таму яны не разумеюць мяне. У свой час я паспяваў і працаваць, і вандраваць.

**«НН»: Як Вы набылі свой першы матацыкл?**

**УЯ:** У 1966 годзе ў Кіеве. Гэта быў мапед «Ява». Мне прывезлі яго на цягніку. Я паставіў яго побач з інтэрнатам. Тады працаваў на Мотавелазаводзе і так зарабіў на яго.




**«НН»: Але цяпер у Вас матацыкл BMW. Што здарылася з «Явай»?**

**УЯ:** Калі вандраваў па ЗША, я патрапіў у аварыю. Мяне паклалі ў шпіталь. Лекары даведаліся, што мой матацыкл ужо немагчыма адрамантаваць. Усёй клінікай яны сабралі грошы мне на новы матацыкл. Амерыканцы вельмі добры людзі, яны выратавалі мяне.

**«НН»: Якія планы на будучыню?**

**УЯ:** Хачу паездзіць па Беларусі. Далёкія вандроўкі ўжо небяспечныя. Хацелася б без матацыкла з'ездзіць са сваёй фотавыставай куды-небудзь. Хачу пабыць у Венесуэле, але не на матацыкле, таму што ўжо ўзрост не дазваляе. Я пачаў вельмі хутка стамляцца.

**Гутарыў Мікіта Недаверкаў**


© PA

# Панталоны брытанскай каралевы Вікторыі прадалі за 12 тысяч фунтаў

Панталоны брытанскай каралевы Вікторыі з абхопам таліі ў 114 см былі прададзеныя за 12090 фунтаў стэрлінгаў (286,4 млн рублёў) на аўкцыёне ў Вялікабрытаніі. Ніжняя бялізна пайшла з малатка разам з начной кашуляй, панчохамі і капелюшамі, якія насілі Яе Вялікасць і прынцэса Аліса. Пра гэта паведамляе *The Daily Mail*.

Усе гэтыя прадметы знаходзіліся ў музеі «Учорашняга свету» ва ўсходнім Сасэксе. На кожным элеменце гардэробу красуюцца ініцыялы VR, што азначае «*Victoria Regina*» (каралева Вікторыя). Аўкцыянер Рычард Эдмандс сказаў, што адзенне і споднае ў цудоўным стане, таму што яны захоўваліся ў спецыяльнай паперы і ў памяшканні з кантраляванай тэмпературай. Да экспанатаў была праяўленая вялікая цікавасць.

Гэта ўжо трэці прадмет ніжняй бялізны каралевы Вікторыі, які купляюць за рэкордную цану.

У аўкцыённых дамах Чыпенхема ва Уілтшыры датавалі бялізну канцом 1890-х гадоў. Нейкі прыватны калекцыянер з Англіі набыў панталоны разам з іншымі прадметамі адзення і наборам копій каштоўных камянёў, якімі была інкруставаная карона Вікторыі.

**Сямён Цыбульскі**

# Акцёр Амар Шарыф памёр ва ўзросце 83 гадоў

**Некаторы час таму паведамлялася, што Шарыф змагаецца з хваробай Альцгеймера.**

Амар Шарыф нарадзіўся ў 1932 годзе ў егіпецкай Александрыі. Яго сапраўднае імя — Мішэль Дзімітрый Шалхуб. Шарыф здымаўся ў амерыканскім і еўрапейскім кіно. Ён сыграў у эпасе Дэвіда Ліна «Лоўрэнс Аравійскі» і камедыі «Смешная дзяўчынка» з Барбарай Стрэйзанд.

У 1962 годзе ён атрымаў прэмію «Залаты глобус» як найлепшы акцёр другога плана за працу ў фільме «Лоўрэнс Аравійскі», а ў 1965 як найлепшы акцёр за ролю Юрыя Жывага ў драме «Доктар Жывага». Акцёр быў таксама намінаваны на «Оскар».

**«Бі-бі-сі»**





# Домрачава можа прапусціць увесь сезон

У цяперашні час алімпійская чэмпіёнка і біятланістка зборнай Беларусі Дар'я Домрачава не трэніруецца, паведамляе тэлеканал «Беларусь-1».

Раней Домрачава паведаміла пра тое, што ў яе выяўлена віруснае захворванне — мананухлеоз.

На аднаўленне спартсменкі можа сысці да трох месяцаў. Існуе верагоднасць, што Домрачава можа прапусціць новы сезон.

Раней Міжнародны саюз біятланістаў (IBU) апублікаваў каляндар Кубка свету сезона—2015/16 і чэмпіянату свету ў Халменколене. Старт сезона — 29 лістапада.

**ЛМ**

**Меркаванне**

# Піва па паўтара бакса і музыка не расейская

Піша **Стась Карпаў**.



Чытаючы пра тое, што вось адкрыўся новы бар / рэстаран / стэйк-хаўс і г.д., пазіраючы на інтэр'еры і вывучаючы меню, я кожны раз ціха, утульненька так хіхікаю. Уладальнікі так ганарацца, што ў іх «канцэпцыя», што ў іх «крэслы з Іспаніі» і арыгінальная мэбля з водаправодных труб. Крута, водаправодныя трубы. Але, па-мойму, самая крутая канцэпцыя — піва па паўтара бакса і каб музыка была ціхай, і не расейскай, і не папса. І нацэнка на гарэлку меньшая за 300%. Такіх месцаў, можа і няшмат — не ведаю, не вылічваў, але яны ёсць. І гэта будзе не гарлемскі капец тыпу піўнухі «Лівaрыя» на Багдановіча, дзе мы ў маладосці пілі бырла з-пад стала, а ўтульненькая забягалаўка тыпу «Старога горада», дзе можна смачна і вельмі шкодна па-беларуску паесці.

У нас ірландскі паб, — крычыць адзін рэстаратар, а ў нас — стыль індастрыял, у нас лофт! Шмофт. Няўжо нехта пойдзе другі раз у бар адмыслова, каб ацаніць інтэр'ер, зроблены дызайнерам так, каб ні праз год, ні праз 5 памяняць у ім нельга было роўна нічога? Ні лямпу новую паставіць, ні стол, каб не прас.аць «канцэпцыю»?

Па-мойму, «дызайнерскія» месцы маюць адну праблему. Дызайнеры так імкнуцца апраўдаць свае 50 еўра за квадрат, што ствараюць канцэптуальныя маналіты, якія нельга дапоўніць ці рамантаваць. Адлюбіць і выкінуць. А, не. Дзве праблемы. Другая (а на самай справе — першая) — піва па 3 баксы.



# Упершыню ў гісторыі ўдалося якасна зняць Плутон

Даследчая касмічная станцыя *NASA* дасягнула максімальнай кропкі збліжэння з Плутонам. Інфармацыя пра гэта з'явілася 14 ліпеня.

Адлегласць паміж Плутонам і станцыяй складала прыкладна 8,150 міль, адзначылі ў касмічным агенцтве. Цяпер апарат праводзіць скanaванне экватара карлікавай планеты. Гэта значная навіна, нават *Google* на дзень прысвяціў падзеі застаўку.

Падарожжа да Плутона *New Horizons* пачалося ў студзені 2006 года. За 9 гадоў ён здолеў пераадолець 4 млрд 800 млн км. Плутон пазбавіўся статуса 9-й планеты Сонечнай сістэмы ў жніўні 2006 года, праз некалькі месяцаў пасля запуску зонда.

**АГ**

# У Мінску адкрыўся патэнцыйны канкурэнт «Макдональдса»

На вуліцы Прытыцкага пачаў працаваць папулярны ў свеце *Burger King*.

Знаходзіцца рэстаран на выхадзе са станцыі метро «Каменная Горка». Месца падабралі ўдалае. Па-першае, большая частка жыхароў гэтага раёна карыстаецца метро. Па-другое, транспартная лінія ідзе на выезд з горада, а значыць, госці сталіцы таксама не пройдуць міма.

Рэстаран мае два паверхі з 200 пасадачнымі месцамі. Адно з наваўвядзенняў, якіх не было ў ніводным фастфудзе Беларусі, — магчымасць самастойна наліваць напоі. Гэтым ужо скарысталіся аматары халявы, якія зліваюць дармавое пепсі ў бітоны, а пасля прадаюць у інтэрнэце.

Персанал ветлівы, але маладыя хлопцы і дзяўчаты ў першыя дні часам забываліся нешта дадаць: накрыўку, саломінку або штонебудзь іншае.

Стандартны набор наведніка фастфудаў — бульба-фры, сырны соус, чызбургер і вялікі кубак газіроўкі — каштуе 58.900 рублёў.

Ежа свежая, цёплая. Бульба, што істотна, смачнейшая за звыклую макдональдсаўскую. Што тычыцца напояў, то тут вялікі мінус — вада на Каменнай Горцы хлараваная, таму газіроўка мае спецыфічны прысмак. Парада — менш дадавайце лёду.

У асартыменце таксама ёсць смажаныя курыныя крылцы, цыбулевыя колцы, нагетсы. Марозіва каштуе ў межах 12—37 тысяч, выпечка — ад 17 да 35 тысяч.

Што тычыцца здаровага харчавання, дык *Burger King* нічым не адрозніваецца ад іншых фастфудаў.

Амерыканская сетка рэстаранаў хуткага харчавання *Burger King* мае 13 тыс. гандлёвых кропак у 79 краінах. 66% кропак знаходзіцца ў ЗША, 99% кіруецца прыватнікамі.

Мікіта Недаверкаў







## Мінлясгас: Грыбоў і журавін сёлета не будзе

З улікам няпростых умоў надвор'я, якія склаліся ў Беларусі вясной, а таксама цяпер, разлічваць на добры ўраджай журавін у гэтым годзе не варта. Аматарам схадзіць у грыбы таксама прыйдзецца пачакаць як мінімум да наступнага года.

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі першы намеснік міністра лясной гаспадаркі Аляксандр Кулік.

Анамальная спякота, натуральна, адаб'ецца на ўраджаі ягад. «Аднак мы бачым, што і суніцы, і чарніцы ўжо ёсць. Па журавінах жа сказаць складана — узровень грунтовых вод спаў, тарфянікі сухія, таму з журавінамі будзе праблема», — сказаў першы намеснік міністра.

Што ж тычыцца грыбоў, то Аляксандр Кулік вымушаны засмуціць грыбнікоў: «Увесну вільгаці практычна не было, лета цалкам высушыла лясную падсцілку, таму з грыбамі, мабыць, прыйдзецца пачакаць да наступнага года».

БелТА

## Пры кожным ўездзе ў краіны Шэнгена ў беларусаў будуць правяраць адбіткі пальцаў

Пра гэта паведамілі ў Нацыянальным каардынацыйным цэнтры памежнай службы Латвіі.

Новая працэдура праверкі звестак на мяжы датычыцца ўсіх, хто падаваў дакументы на шэнгенскую візу пасля 23 чэрвеня і пры гэтым здаваў біяметрыю. Гэта абавязковая ўмова ўезду ў краіны Шэнгенскага пагаднення незалежна ад віду транспарту, на якім едзе беларус.

Для тых, хто атрымаў візу да ўвядзення біяметрычнага збору дадзеных, працэдура перасячэння мяжы не змянілася.

Радыё «Рацыя»

## Ваверчаня самастойна прыйшло ў клініку па дапамогу

Ветэрынару з Сіпаа (паўднёвая Фінляндыя) Самулі Хейсканену, які працуе ў клініцы для маленькіх жывёл, давялося сутыкнуцца з рэдкай з'явай — пухнаты пацыент прыйшоў на прыём самастойна.

Хворае ваверчаня ўзлезла па калашыне на рукі да ветэрынара, і той заўважыў, што ў жывёліны цячэ з носа кроў. Па словах Хейсканена, рудое стварэнне было стомленым і знясіленым, аднак пасля таго, як яго напаілі са шпрыца і далі ежы, яно стала пачувацца лепей.

Ваверчаня пакінулі ў клініцы паправіцца здароўе. Па словах Хейсканена, хутчэй за ўсё, малое выпала з гнязда, і, на шчасце, яму хапіла кемлівасці звярнуцца па дапамогу да людзей.



Фота жывёлінкі, апублікаванае на старонцы ветклінікі ў фэйсбуку, сабрала шквал лайкаў ад карыстальнікаў.

Лявон Максюта

## Гераічны подзвіг 28 панфілаўцаў выдумаў савецкі карэспандэнт

Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі апублікаваў на сваім сайце даведку-даклад галоўнага ваеннага пракурора Н. Афанасьева «Аб 28 панфілаўцах» ад 10 мая 1948 года.

У дакуменце сцвярджаецца, што подзвіг 316-й стралковай дывізіі пад камандаваннем генерала Івана Панфілава, які стаў легендай, на самай справе быў выдумкай ваенных карэспандэнтаў. Згодна з дакладам, як мінімум пяцёра байцоў, якія «гераічна загінулі», насамрэч выжылі, а адзін з іх увогуле сам здаўся ў нямецкі палон і добраахвотна служыў паліцаем.

Нагадаем, што «кананічная» версія подзвігу такая: 16 лістапада 1941 года, калі пачалося новае наступленне праціўніка на Маскву, байцы 4-й роты на чале з палітруком Клачковым, ажыццяўляючы абарону ў раёне раз'езда Дубасекава, што побач з Валакаламскам, у ходзе 4-гадзіннага бою знішчылі 18 варожых танкаў. Усе 28 чалавек загінулі, ніхто не здаўся (дакладней, адзін паспрабаваў, але яго застрэлілі самі «панфілаўцы»). Фраза «Вялікая Расія, а адступаць няма куды — за намі Масква!», якую нібыта вымавіў перад смерцю палітрук Клачкоў, была ўключана ў савецкія школьныя і ўніверсітэцкія падручнікі па гісторыі.

Даклад ваеннага пракурора абвяргае легенду. У ім гаворыцца, што ўпершыню «подзвіг панфілаўцаў» з'явіўся ў нарысе карэспандэнта газеты «Чырвоная Звязда» Карацеева. Гэты нарыс выйшаў 27 лістапада 1941 года, у ім сцвярджалася толькі, што ўсе байцы загінулі, не прапусціўшы ворага, без падрабязнасцей. А на наступны дзень выйшаў разгорнуты матэрыял літаратурнага сакратара гэтай жа газеты Крывіцкага пад назвай «Запавет 28 панфілаўцаў», дзе і была тая версія пра «панфілаўца-здрадніка», які вырашыў здацца.

Аднак і гэта не ўсё. У студзені 1942 года Крывіцкі ізноў публікуе артыкул пра «панфілаўцаў». У ім падрабязна апісваецца бой, гучаць рэплікі «герояў», называюцца іх імёны і прозвішчы. Пры гэтым летам 1942 года ўсе гвардзейцы, якія фігуравалі ў тэксце, пасмяротна атрымалі званні герояў Савецкага Саюза.

У расследаванні ваеннага пракурора сцвярджаецца, што ўсе шматлікія публікацыі, артыкулы, нават вершы, паэмы і песні, прысвечаныя «панфілаўцам», былі створаныя ці самім Крывіцкім, ці пры яго ўдзеле.

Улад Швядовіч

Кіно

## «Зло праз прызму камедыі»

Міньёны
**Жанр:** мультфільм, камедыя, сямейны
**Рэжысёр:** Кайл Балда, П'ер Софін
**У ролях (агучка):** Сандра Балак, Джон Хэм, Майкл Кітан, Элісан Джэні, Стыў Куган, Джэніфер Сондэрс
ЗША, 91 хв.
**Адзнака:** 5

Міньёны — жоўтыя памочнікі зладзеяў, якія існуюць спрадвеку. Яны маюць толькі адну мэту — служыць самым амбіцыйным са злачынцаў. Пасля таго, як міньёны па сваёй дурасці знішчылі сваіх гаспадароў, уключна з Дракулай, тыраназаўрам Рэксам і Напалеонам, яны ізаляваліся ад свету і пачалі новае жыццё ў Антарктыдзе. Аднак у 1960-х адсутнасць гаспадара давяла іх да дэпрэсіі, таму Кевін, Сцюарт і Боб адправіліся шукаць новага. Тройца трапляе на злачынную канферэнцыю, дзе вырашае змагацца за права быць прыслужнікамі Скарлет Оверкіл, стылёвай ліхадзейкі, якая мае надзвычай амбіцыйныя мары.

Анімацыйная стужка з'яўляецца адначасова прыквелам (гісторыя падзей да асноўнага фільма) і спін-офам (адгаліноўванне асноўнага сюжэта ранейшага твора) серыі мультфільмаў «Брыдкі я» (2010, 2013) і апавядае пра тое, як з'явіліся міньёны і што з імі адбывалася да сустрэчы са злодзеем Гру. Суперзладзейку ў мультфільме сыграла і агучыла Сандра Балак. Гэта першая адмоўная гераіня актрысы. «Кожны акцёр скажа, што заўсёды хацеў сыграць ліхадзея. Гэта ж такая палёгка! Заўсёды робім з сябе дабракоў, а тут можна паказаць сваю сапраўдную сутнасць», — пажартавала Балак з гэтай нагоды.

Стваральнікі праекта надалі кожнаму герою асаблівы твар. «Для нас важна ствараць глыбокіх персанажаў, якія не ёсць плоскімі, а маюць характар. І ўсе ж мы глядзім на зло праз прызму камедыі. Знаходзім смешнае ў дрэнным», — расказаў прадзюсар Крыстафер Меледандры. Рэжысёр П'ер Софін сам агучыў усіх 899 міньёнаў: істоты імітуюць мову, толькі часам ужываючы зразумелыя словы.

Сюжэт круціцца вакол смешных і няёмкіх сітуацый, у якія трапляюць міньёны, спрабуючы дапамагаць сваім гаспадарам. Фонам для падзей стала Вялікабрытанія — яе абірае Скарлет Оверкіл для здзяйснення сваіх мараў.




Мультфільм мае рэйтынг 6+ і падыходзіць для сямейнага прагляду.

Настасся Уласава

**Заўважце!**

# Анатоль Сідарэвіч: Пра выбары маўчаць

Быў пару дзён у роднай старане (поўдзень Ганцавіцкага і поўнач Пінскага раёнаў), завітаў на пару гадзін да сваякоў у Баранавічах. Сустракаўся з многімі людзьмі — дзясяткамі. Пра што людзі гавораць? Пра тое, што ўжо даўно не было дажджу, што бульба і гародніна могуць прапасці, што ягады дробныя, што грыбоў няма… І АНІ СЛОВА ПРА «ВЫБАРЫ». А гутарыў жа не толькі са старымі цёткамі — з людзьмі розных званняў, у тым ліку з людзьмі на пасадах, людзьмі, якія чытаюць газеты і зазіраюць у інтэрнэт ды адрозніваюць Грамаду ад БНФ. І НІХТО НЕ ПРАМОВІЎ СЛОВА «ВЫБАРЫ».

# Хто дапаможа ўстаць з калень?

Не пужайцеся: ніякай палітыкі, ніякай крытыкі — толькі голы факт з крамы «Еўраопт». Без фотаздымкаў. Фатаграфаваць наш росквіт нельга, каб пазбегнуць чаго? Каб зласліўцы інфаркт ад зайздрасці не схапілі!

Так, у краму, па кефір… Торбу трэба пакінуць пры ўваходзе, у камеры захоўвання. Трафарэт: «Адміністрацыя за захаванасць рэчаў адказнасці не нясе». І правільна робіць! Злачыннасць у нас (калі верыць справаздачам МУС, а ўсе вераць) штогод зніжаецца. Хутка будзе практычна роўная нулю. Ячэйкі месцяцца па беларускім дызайне — ніжнім шэрагам можна скарыстацца толькі ў трох позах: 1) на кукішках; 2) у позе «прачкі»; 3) лежачы на падлозе . Верхні шэраг часткова адчынены, а часткова заклеены паперчынай з надпісам «Не працуе».

Законапаслухмяная, як і ўвесь народ, бабуля прысела на кукішкі і павалілася на падлогу. Узрост не той, ды і спартыўных пабудоў для тых, каму за 80, недастатковае… Устаць бабулька змагла, але толькі на калені. Я дапамагла падняцца.

— Што, бабуля, кепска?

— А што зробіш?

Вось так, пытаннем на пытанне! А нічога не зробіш! Падняць ніжні шэраг ячэек на адзін метр — гэта нікому ў галаву не прыйдзе: ні адміністрацыі крамы, якая адказнасці не нясе, ні ахоўнікам, ні дызайнераў праекта гэта не зачэпіць.

«Што зробіш?» Самыя на каленях стойке! Вас гэта задавальняе. Любая крытыка ўспрымаецца так, быццам ты вораг, радзіму прадаеш або яшчэ што горшае. Не падабаецца — з'язджай!

А вось мне ўсё падабаецца! Падабаецца наша міліцыя. Падабаецца наш гандаль, чэсны і ветлівы. Падабаецца датэрміновае галасаванне, падабаецца мой ЖЭС, ЖРЭА, ахова здароўя. Каго я яшчэ забыла? Наш народ, які жыве па прынцыпе бабулі на каленях у «Еўраопце»: «А што зробіш?».Так і жывіце! Нічога не рабіце. Цішэй будзе, а то вакол Майданы, Емены, Сірыя з Лівіяй, даляр скача, як шалёны конь. Нам жа спакойна, чыста, ужэна… І жанчыны найпрыгажэйшыя ў свеце, а гэта і ёсць нашае простае беларускае шчасце!

**Таццяна Канстанцінаўна Карэліна, Мінск, адна з «самых» у свеце**

**Прыватныя абвесткі**

**Віншуем** Пятра Рудкоўскага і Рэгіну Атрашкевіч з узяццем шлюбу. Сябры



**Шукаем ахвотных для стварэння беларускамоўнай групы ў дзіцячым садку**
Дарагія сябры! На наступны навучальны год (2016—2017) хочам арганізаваць беларускамоўную малодшую групу ў дзіцячым садку № 77 на вуліцы Волаха (Мінск, раён Карла Лібкнехта — Розы Люксембург). Хто хацеў бы далучыцца, калі ласка, пішыце на фэйсбук Наталлі Харытанюк (Natallia Kharytaniuk) або мэйл harnami@yahoo.com

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Сілуэт горада і бізнэс

Калі пачыналі будаваць офіс «Вэлкам» на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, на плошчы будоўлі былі размешчаны выявы гэтага будучага гмаха і побач з ім — існуючага тады будынка Музея Вялікай Айчыннай вайны. Маўляў, не турбуйцеся, мінчукі, будынак музея застаецца! Але ўрэшце ён быў знішчаны, чым быў парушаны архітэктурны ансамбль плошчы. Калі яго разбуралі, на плошчы развесілі выявы не таго, што мяркуецца пабудаваць на яго месцы, а мноства рэпрадукцый старых фотаздымкаў мінскіх пабудоў, многія з якіх ужо не існуюць. Як бы без слоў сказалі жыхарам: у Мінску і раней многа разбуралася, і мы прыцягнем гэтым займацца, а што пабудуем — не ваша справа. З часам даведаецеся. Цяпер за гэтым плотам глыбокі катлаван пад нейкае збудаванне.

Прафесар Адам Мальдзіс прапаноўваў прыстасаваць будынак на плошчы, ужо пакінуты музеем, для размяшчэння Беларускага дома. Гэта была слушная, вельмі актуальная ў наш час ідэя, але ўлады яна не зацікавіла, і будынак паспешна разбурылі.

На плошчы з'явілася пустка. Але ж гэтае месца прывабнае для бізнэсу. На такім месцы бізнэсоўцы заўсёды імкнуцца размясціць як мага больш карысных плошчаў. Таму тут ужо у 2007 годзе прапанавалі будаваць менавіта хмарачос.

Спачатку яго хацелі ўціснуць паза будынкам музея. Месца было замала, і вырашылі выгнаць музей з плошчы, каб захапіць большую тэрыторыю. Зацікаўленыя асобы казалі, што хмарачосам нададуць Мінску сілуэт, якога яму быццам бы вельмі бракуе. Праектныя распрацоўкі, выкананыя згодна з гэтай задумай, груба парушалі кампазіцыю і маштаб забудовы. Гэтая ідэя сустрэла крытыку грамадскасці і, здаецца, была адрынута як архітэктурна недарэчная для гэтага месца. Потым у СМІ з'явілася выява 7—9-павярховага будынка на месцы музея. Сваім аблічам ён дысгарманіраваў з агульным ансамблем забудовы, але ўсё ж быў меншым ліхам, чым хмарачос. Пры жаданні яго выгляд магчыма было б удасканаліць — лепш упісаць у асяроддзе, паменшыць памеры. Размясціць у ім лепш за ўсё было б, з прыцягненнем прыватных ахвяраванняў, усё той жа Беларускі дом, бо месца тут для яго найлепшае!

А нядаўна ў СМІ зноў з'явіліся развагі аб тым, што на гэтым месцы павінен быць «сілуэтны будынак, які дапаўняў бы Верхні горад», хоць і ніжэйшай павярховасці, чым праектаваны тут раней хмарачос. Такое вось імкненне проста прыхарошыць гістарычны Мінск новым сілуэтам — і ніякага намёку на камерцыйныя інтарэсы, ні слоўка аб тым, што ў гэтым аб'ёме варта размясціць і чаму.

Агульнавядома, што па ўсіх элементарных правілах будаваць высокія дамы побач з каштоўнымі гістарычнымі ансамблямі недапушчальна, але ў нас іх парушалі не раз.

Трэба разумець, што сёння ў нас пануе дыктатура «шырспажыву» — масавых будаўнічых і аздабляльных тэхналогій, якімі вымушаны карыстацца беларускія архітэктары, што вельмі абмяжоўвае магчымасці формаўтварэння. Вынік гэтага — спрошчанасць форм, адсутнасць вытанчаных дэталіровак, выпадковае спалучэнне матэрыялаў. Калі прыглядзецца да ўсіх архітэктурных вертыкаляў Мінска, створаных у апошнія дзесяцігоддзі, відавочна, што па сваёй эстэтыцы, па мастацкіх якасцях сілуэта яны не годныя параўнання з творамі ранейшых часоў. «Застылай музыкай» іх ніхто не назаве. Побач з гістарычнай забудовай ім месца не павінна быць.

У цэнтра Мінска ўжо ёсць выразны, каштоўны сілуэт — гэта вертыкалі Верхняга горада. Ён можа быць узбагачаны ўзнаўленнем вежы былога Езуіцкага калегіума і Дамініканскага касцёла. А ад пазнейшых пабудоў, што ўносяць дысгармонію ў панараму, трэба паступова пазбаўляцца, а не множыць іх колькасць.

**Ігар Байцоў, архітэктар, Мінск**

**Абы-як**

Няма яшчэ ў Беларусі гаспадара! Гэта мне падумалася, калі мы схадзілі ў туалет на трасе пад Івацэвічамі. Усяго год назад, да чэмпіянату свету па хакеі, узвялі гэтыя прыбіральні. І пасля першай жа зімы плітка «шчыльнымі радамі» абвалілася. Мусіць, паклалі на клей для ўнутраных работ, а ўзімку туалет замарозілі. Або проста няякасна паклалі нейкія алкаголікі. Але так ці так, а ў Германіі ці Польшчы, дзе моцная ўлада і парадак, вінаватыя ўдубельт апладзілі цану змарнаванай пліткі і работы. Цяпер жа сорамна і перад сваімі, і перад гасцямі нашай краіны.

**Сямён Цыбульскі, Мінск**



**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

# Дзяўчыну, якая ўрэзалася ў картэж каля Александрыі, арыштоўваць не сталі

Пост аховы ля палаты 23-гадовай Ганны зняты, але яна **застаецца ў статусе падазраванай.**

«Жонка ў бальніцы, у яе ўдары. Але, здаецца, пачуваецца добра, — сказаў *kp.by* Міхаіл, муж 23-гадовай Ганны, якая была за рулём БМВ, што заехала ў картэж спецмашын пад Александрыяй. — Адразу ж пасля аварыі жонку затрымалі на 72 гадзіны (ля палаты дзяўчыны ў бальніцы быў выстаўлены пост аховы). І ўжо 9 ліпеня вырашалі, што рабіць далей: ці то ў СІЗА пераводзіць, ці то пад хатні арышт. Але вырашылі не арыштоўваць».

Нагадаем, гучнае ДТЗ адбылося 5 ліпеня на трасе Орша—Шклоў—Магілёў. У той час, калі па сустрэчнай ехаў картэж з мігалкамі, Ганна не справілася з кіраваннем сваім «БМВ» і заехала ў мінівэн, які ішоў у складзе калоны. Моцна пацярпелі два пасажыры «Мерседэса» — яны атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні.

СМ

# Карупцыйны скандал у Вілейцы атрымаў працяг

Пасад пазбавіліся адразу некалькі кіраўнікоў. **У тым ліку і мэр.**

Карупцыйны скандал скалануў невялікі горад у пачатку 2014. У клубок спляліся злачынствы кіраўнікоў раёна і мясцовых арганізацый. Праўда, гордзіеў вузел, як падалося адразу, аказаўся зусім не заблытаным — кралі, каб самім разжыцца.

### Не пасадзілі, а толькі панізілі

На кіраўніка Вілейскага райвыканкама Яўгена Сінілу крымінальную справу завялі за злоўжыванне: будаваў сабе дом за кошт дзяржавы. Мясцовыя арганізацыі перавозілі матэрыялы па вусным загадзе, а будаўнікі ў працоўны час «шабашылі» на мэравай фазэндзе — без афармлення дамоваў аб аплаце.

Вясной 2014 Сініла пакінуў крэсла старшыні райвыканкама, якое займаў з 2001. Афіцыйна — па ўласным жаданні. Але праз колькі дзён пасля сыходу стала вядома пра крымінальную справу. Былы вертыкальшчык напісаў хадайніцтва аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці (прызнаў віну), да яго прымянілі амністыю і справу спынілі. Нанесеную шкоду ён кампенсаваў.

А восенню Сініла знайшоў сабе новае месца працы — рангам ніжэй: стаў кансультантам Мінскага абласнога аграпрамысловага саюза. Кансультуе кіраўнікоў сельгасарганізацый, у тым ліку Вілейшчыны.

З крымінальнай справы мэра Вілейкі для правядзення дадатковай праверкі былі вылучаны матэрыялы для дачы прававой ацэнкі дзеянням кіраўнікоў асобных прадпрыемстваў раёна. Нядаўна скончыліся суды над нядбайнымі кіраўнікамі. Каго ж у выніку пасадзілі?

### Капалі бульбу і збіралі грыбы

Былы дырэктар Вілейкарайгаза Анатоль Маркевіч шэсць гадоў карыстаўся з выгодаў свайго сціплага службовага становішча. І правядзе за кратамі два з паловай гады. Міністэрства ўнутраных спраў агучыла ўсе эпізоды гэтай справы.

З 2006 па 2012 год ён прыцягваў падначаленых для работы за межамі газавай гаспадаркі. У працоўны час яны займаліся ўборкай бульбы, зборам грыбоў, рамонтам кватэр і катэджаў. Наймальнік жа выплачваў ім толькі афіцыйны заробак.

У кола «замоўцаў» бясплатнай працы ўваходзілі не толькі Маркевіч, яго радня, але і шматлікія знаёмыя: раённыя чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў. Нямэтава выкарыстоўваў і службовую тэхніку, транспарт. Па справе праходзілі больш за 30 рабочых.

Між іншым, Маркевіч прыйшоў у Вілейку на павышэнне ў снежні 2005 з Княгініна, суседняга Мядзельскага раёна. А ўжо ў 2006 загразнуў у карупцыі. Нядоўга пратрымаўся.

Анатоль Маркевіч, акрамя тэрмінага тэрміну, павінен сплаціць яшчэ і штраф у 300 базавых — 54 мільёны рублёў. А пасля вызвалення яму на тры гады забаронена займацца дзейнасцю, звязанай з арганізацыйна-распарадчымі функцыямі і матэрыяльнай адказнасцю.

### Начальнік папрасіў — не адмовіў

Яшчэ адным кіраўніком, якога пасадзілі, стаў дырэктар Вілейскага вопытнага лясгаса Павел Касяк. Справу завялі за крадзеж. Выявілася, што ён па просьбе вышэйшага кіраўніка скраў са свайго прадпрыемства абшывачныя дошкі «блок-хаўс» для знаёмага свайго начальніка. Той паабяцаў заплаціць. Крадзеж меў месца яшчэ ў канцы 2011. Сума шкоды па тагачасным курсе склала каля 2 тысяч даляраў.

Касяка асудзілі на тры з паловай гады калоніі з адтэрміноўкай на тры гады. Гэта значыць, што калі за час адтэрміноўкі ён не трапіць у новую крымінальную гісторыю альбо не будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, то за краты не адправіцца. Гэты час ён будзе пад прафілактычным наглядам: яму забаронена без дазволу мяняць месца жыхарства, павінен адзначацца ў міліцыі. Калі Касяк усё-ткі трапіць за краты, тады ў яго канфіскуюць усю маёмасць. А таксама пазбавяць права займаць кіруючыя пасады на пяць гадоў.

Павел Касяк быў паважаным у горадзе чалавекам. Яго, дарэчы, назвалі Чалавекам года Міншчыны — 2010.

У Міністэрстве ўнутраных спраў папярэджваюць, што менавіта службовыя асобы ў раённых цэнтрах знаходзяцца пад пільным кантролем праваахоўнікаў.

Кастусь Матушыч

### Вышук

**Шукаюць гвалтаўніка ў Мінску**

Мужчыну з фотаробата падазраюць у шэрагу згвалтаванняў у сталіцы. Невядомы чакаў жанчын у бязлюдным месцы ўвечары, заводзіў з імі размовы, хапаў за горла, збіваў з ног, біў, затым гвалціў. На выгляд яму 45—50 год, рост 165—170 см. Калі вы пазналі гэтага чалавека, звяртайцеся на: (017) 239-47-51, (044) 751-09-98.

**...і Віцебску**

Мужчына з фотаробата 8 ліпеня спрабаваў згвалціць дзяўчынку ў пад'ездзе дома на праспекце Будаўнікоў у Віцебску. На выгляд яму 35—40 гадоў, рост каля 175—180 см, на адной з рук татуіроўка ў раёне перадплечча або на локцевым згібе. Хто пазнаў яго, звяртайцеся на: (029) 5489002 або 102.

# Ад чаго гінуць маленькія беларусы?

Следчы камітэт прааналізаваў **сітуацыю з дзіцячымі смерцямі.**

У сілавым ведамстве па выніках мінулага года назвалі асноўныя прычыны гібелі дзяцей у няшчасных выпадках. Гэта аварыі, утапленне, пажары, падзенне з вышыні, удушша праз закрыццё дыхальных шляхоў іншароднымі прадметамі.

Напрыклад, летась патапілася 36 дзяцей, у гэтым годзе — 12. Адзін з нядаўніх выпадкаў — смерць 2-гадовага хлопчыка. Дзіця гулялася ў пяску на падворку. За ім прыглядаў бацька. За некалькі хвілін, якія мужчына не звяртаў увагі на малога, той змог забіцца. З гары пяску ён узлез на блокі побач, з іх — на студню. Яна хоць і была накрыта драўляным насцілам, але той нават пад вагой дзіцяці праламаўся.

Пачасціліся выпадкі падзення дзяцей з вокнаў з маскітнай сеткай. Два тыдні таму падобны выпадак адбыўся ў Жабінцы: 2-гадовы хлопчык выпаў з акна трэцяга паверха — сетка абарвалася пад вагой хлопчыка. На шчасце, выжыў. А на мінулым тыдні такое падзенне скончылася трагічна. 6-гадовы хлопчык зваліўся з трэцяга паверха дома ў Мінску. Ад атрыманых траўм сканаў у бальніцы.

На пажарах летась загінула 14 дзяцей, сёлета ўжо 8. У сакавіку ў Мастоўскім раёне адбыўся пажар, на якім адразу згарэла трое дзяцей: дзяўчынкі 2008 і 2009 гадоў нараджэння і 3-гадовы хлопчык. Дзеці засталіся адны. Сталі свавольнічаць з агнём. Пажар пачаўся з шафы, на якой бацька захоўваў цыгарэты і запалкі. Калі загарэлася, самі дзеці выбрацца з хаты не змаглі: былі замкнёны.

Яшчэ адна прычына смерці — асфіксія. У маі і чэрвені адбыліся дзве такія трагедыі. Трохгадовы хлопчык падавіўся гатлаткай. Маці не падумала яе скрышыць. У другім выпадку аднагадовае дзіця падавілася яблыкам. Вынік аднолькавы — смерць.

У Следчым камітэце адзначаюць, што часам падобныя здарэнні становяцца не выпадковасцю, а вынікам прычын, якія можна было папярэдзіць.

Сяргей Макарэвіч

### Сціsла

**Віноўніка трагедыі на Гая будуць лячыць**

Абвінавачаны па справе аб трагедыі на вуліцы Гая ў Мінску вызвалены ад крымінальнай адказнасці па стане неадэкватнасці. Па рашэнні суда, яго адправяць на прымусовае лячэнне. Акрамя гэтага ён павінен выплаціць 700 мільёнаў рублёў маральнай шкоды сыну і абедзвюм маці загінулай пары. У лістападзе ён спрабаваў забіць сваю жонку і двух малалетніх дзяцей. А затым справакаваў аварыю, у якой загінулі муж і жонка.

**Сарваўся з 12 паверха пад хіхіканне сяброў**

У адным з двароў каля станцыі метро «Пушкінская» ў Мінску шумная кампанія назірала за тым, як малады чалавек вісіць на балконе 12 паверха. Ён толькі адной рукой трымаўся, другой нават не спрабаваў сабе дапамагчы. Адзін з хлопцаў унізе здымаў усё на мабільнік, дзяўчаты смяяліся. Правісеўшы так, ён паспрабаваў скокнуць на балкон паверхам ніжэй. Але сарваўся і разбіўся. Загінуў 24-гадовы мінчук. Следчыя разбіраюцца ў акалічнасцях здарэння.

**Прадала спайс падлетку — той у рэанімацыі**

15-гадовая навучэнка аграрна-эканамічнага каледжа ў Наваполлі затрымана па падазрэнні ў незаконным распаўсюдзе псіхатропаў. Шукаць яе пачалі пасля таго, як у бальніцу ў цяжкім стане паступіў навучэнец гэтага ж каледжа. Ён атруціўся спайсамі, якія набыў у аднакурсніцы. Непаўнагадовая наркагандлярка ўжо змешчаная ў ізалятар.

**Байкер насмерць збіў сям'ю і разбіўся сам**

Здарэнне адбылося 11 ліпеня на Маскоўскім праспекце ў Віцебску. 24-гадовы матацыкліст на «Ямасе» наехаў на сямейную пару, якая пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пераходзе. У выніку ДТЗ кіроўца матацыкла і пешаходы — 27-гадовы мужчына і 26-гадовая жанчына — загінулі.

КМ

SK.GOV.BY

# Вярхоўны суд раскрыў правіну чатырох звольненых суддзяў

Як пісала «НН» у мінулым нумары, Аляксандр Лукашэнка сваім указам ад 2 ліпеня адхіліў ад займаных пасад адразу чатырох суддзяў Эканамічнага суда Мінска. Прычына — правіна, несумяшчальная са знаходжаннем на дзяржаўнай службе.

Пасад пазбавіліся былы старшыня Эканамічнага суда Мінска Ігар Ждановіч, яго намеснік Сяргей Кулакоўскі, суддзі Алег Клюйко і Андрэй Рыбалкін.

За тыдзень сталі вядомыя дэталі.

«Ініцыятарам прыцягнення да дысцыплінарнай адказнасці названых асоб выступіў Вярхоўны суд. Факты дзеянняў, несумяшчальных з высокім званнем суддзі, выяўленыя ў ходзе праведзенай праверкі, знайшлі сваё пацвярджэнне. У прыватнасці, пацверджаны непрацэсуальныя зносіны названых асоб з прадстаўнікамі бакоў да вынясення рашэння па справе, каб дагадзіць асабістым інтарэсам», — паведамілі ў прэсслужбе Вярхоўнага суда.

Праўда, непрацэсуальныя зносіны — гэта даволі шырокая фармулёўка. Гэта магло быць абмеркаванне будучага судовага рашэння з тым, супраць каго яно прымалася.

Між іншым, суддзя Кулакоўскі сёлета разглядаў справу кнігарні «Логвінаў». А ў лютым 2015 быў затрыманы суддзя Эканамічнага суда Мінска Юрый Грушэцкі. Яго вінавацяць у атрыманні хабару.

СМ

## Як рэстаўруюць Быхаўскі замак


Так ён мусіць выглядаць у 2018-м.

На рэканструкцыю Быхаўскага замка XVII ст. выдаткавана ўжо сем мільярдаў рублёў. За гэтыя грошы аднавілі толькі дзве вежы. Працы цягнуліся тры гады. Астатняе — у жудасным стане. Рэканструкцыя замка ўключана ў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі» на 2012—2018 гады.

Мікіта Недаверкаў


Адноўленая вежа.



І рэшта замка.

## Туркмены паднялі бунт на будоўлі ў Мінску: патрабавалі смачнага хлеба



Гэта адбылося недалёка ад гандлёвага цэнтра «Замак» і Палаца незалежнасці, дзе ўзводзяць амбасады Казахстана і Туркменістана. Будаўнікі з Туркменістана, Узбекістана, Украіны адмовіліся ісці на пляцоўку і працаваць.

Недалёка ад будоўлі сабралася каля 200 чалавек. Большасць — туркмены. Па пратэстоўцаў прыехаў аўтобус, які павёз іх у інтэрнат, дзе яны жывуць.

Кіраўніцтва аб'екта адмовілася выйсці і пракаментаваць сітуацыю. Падрабязнасці распавёў агент па забеспячэнні, які не пажадаў называцца.

«Сёння працаўнікі заявілі, што не будуць працаваць, пакуль не будзе нармальнага хлеба. Дрэнны хлеб трапіўся, але не сапсаваны. Мякчэйшы быў ці што, чым звычайна. Субпадрадчык тут закупляе хлеб з завода, — растлумачыў агент па забеспячэнні. — Рабочыя такія капрызныя і эмацыйныя папаліся, не спадабалася ежа, прыйшлася ім недаспадобы».

Паводле яго слоў, кампаніясубпадрадчык гатуе для будаўнікоў туркменскія стравы з беларускіх прадуктаў. Кормяць рабочых тры разы на дзень. «Стравы спецыяльна прыгатавалі, што яны хочуць, тое і гатуем. У нас першы раз такое з-за ежы атрымалася. Такіх выпадкаў не было і больш не будзе».

На выхадзе з будоўлі мы заспелі яшчэ адну групу рабочых, якія чакалі аўтобуса, і пацікавіліся, чым ім так не спадабаўся беларускі хлеб. «Ён зусім не падобны на туркменскі хлеб, нейкі прэсны. Той, што сёння прывезлі, наогул немагчыма было есці. А хлеб жа для нас, лічы, амаль нацыянальная страва, без яго ніяк, вось і не выйшлі на працу», — сказаў адзін з рабочых.

Гэта ўжо не першы выпадак, калі працоўныя мігранты ў Беларусі адмаўляюцца працаваць. 2 ліпеня ў Добрушы страйкавалі кітайцы.

tut.by

## Алег Табакоў назваў украінцаў «убогімі»

Пра гэта вядомы савецкі і расійскі акцёр і рэжысёр заявіў каналу «Рэн-ТВ» на просьбу пракаментаваць фармаванне ўкраінскім Мінкультам «чорнага спісу» расійскіх артыстаў.

«Яны і так не вельмі прасветленыя. Як бабуля ў сэрцах казала: «Та плюнь ты на іх. Гэта ж тэмні та нэграмотні люды». Бяда ў тым, што людзі нармальныя будуць пакутаваць ад таго, што нармальная інфармацыя ніяк да іх не трапляе. Гэта ж трэба, каб хтосьці з насельнікаў гэтай краіны знутры нешта зразумеў. Я вам так скажу: сорамна за тыя мярзоты, якія яны робяць, забіваючы людзей і руйнуючы іх жыллё. А так, адгукацца на іх... Я махнуў рукой, нягледзячы на тое, што ў мяне адна чвэрць крыві ўкраінская», — сказаў Табакоў. Бабуля Алега Табакова да рэвалюцыі мела маёнтак у Херсонскай вобласці пад Адэсай.

Дзеянні Мінкульта Украіны, казаў рэжысёр, выклікаюць у яго «пачуцце няёмкасці і сораму». «Я шкадую іх, разумееце. Яны ў нейкім сэнсе ўбогія. А зараз я зусім такую сакраментальную думку вам скажу: бяда ж сапраўдная заключаецца ў тым, што ва ўсе часы іх найлепшыя прадстаўнікі інтэлекту, літаратуры, у параўнанні з рускімі, былі недзе на другой або трэцяй пазіцыі», — заявіў расійскі культурны дзеяч.

Далей Табакоў, разважаючы пра вартасці ўкраінскіх пісьменнікаў, залічыў да апошніх чамусьці і Элізу Ажэшку — беларускую польскамоўную пісьменніцу, пахаваную ў Гродне.

Заява Табакова выклікала такую бурлівую грамадскую рэакцыю, што ён змушаны быў апраўдвацца і казаць, што яго словы «перакруцілі». Аднак на запісе, даступным у інтэрнэце, яны гучаць менавіта так.

СМ; паводле gordonua.com

**Чорныя спісы**

8 ліпеня Міністэрства культуры Украіны ўнесла ў «чорны спіс» 117 артыстаў з Расіі — пералік асоб, якія ўяўляюць пагрозу нацыянальнай бяспецы Украіны.

## Узровень вады ў беларускіх рэках панізіўся да гістарычнага мінімуму

У сярэднім за суткі вада ў рэках падае на 7—10 сантыметраў. Пакутуе раслінны і жывёльны свет, а таксама ствараюцца перашкоды для рачнога транспарту. Былая супрацоўніца Пінскага міжраённага цэнтра па гідраметэаралогіі Таццяна Гарошка кажа, што ўся праблема праз адсутнасць снегу ўзімку:

— Тэмпература прамярзання глебы была таксама не такая ўжо вялікая, вышыні снегу таксама мы не набралі дастатковай. Каб гэта ўсё вярнулася ў норму, нам патрэбны моцны цыклон на тыдзень як мінімум. Трэба, каб хоць тыдзень бесперапынна ішлі ападкі.

Паводле радыё «Рацыя»

## Расійскія кантрактнікі збеглі з палігона, баючыся адпраўкі ва Украіну. Іх судзяць

Некалькі дзясяткаў кантрактнікаў з мотастралковай брыгады збеглі з палігона ў Растоўскай вобласці, бо спалохаліся адпраўкі на ўсход Украіны. Пра гэта паведамляе Газета.ru.

Супраць іх заведзеныя крымінальныя справы. Кожнаму пагражае да дзесяці гадоў пазбаўлення волі за самавольнае пакіданне частак.

Па дадзеных выдання, 23-гадовы радавы Анатоль Кудрын ужо асуджаны за дэзерцірства. Ён атрымаў паўгода калоніі-пасялення. Яшчэ двое вайскоўцаў знаходзяцца пад арыштам. Следства па іншых уцекачах пакуль працягваецца.

Па версіі следства, кантрактнікі пакінулі палігон, «не жадаючы пераносіць нягоды і цяжкасці вайсковай службы».

# Невераґодная гісторыя шлюбу Вінцэнта Марцінкевіча

**Быў у жыцці першага беларускага камедыёграфа ўчынак у духу камедыі «Каўказская палонніца» — выкраданне нявесты. Піша гісторык-архівіст Зміцер Дрозд.**

Жыццё Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча было поўнае падзей, у рэальнасць якіх цяжка паверыць. Падаецца, што сам драматург накідваў гэтыя захапляльныя сюжэты, дазнаўшыся пра якія, крытычна настроены чытач выгукне: «Не веру!» Чаго вартая гісторыя з прыжыццёвым пахаваннем пісьменніка, пра якую «НН» пісала ў № 20'15.

Той «тэатральны» эпізод далёка не адзіны ў жыцці Марцінкевіча. Быў у ім і ўчынак у духу камедыі «Каўказская палонніца» — выкраданне нявесты. Пра тое, як 24-гадовы Вінцук умыкнуў сваю будучую жонку Юзэфу Бараноўскую, пісалі біёграфы Марцінкевіча, тое-сёе пра гэту гісторыю помніла дочкі класіка, але без падрабязнасцяў.

Сучасныя даследчыкі знайшлі запіс пра вянчанне Вінцэнта Марцінкевіча і Юзэфы Бараноўскай. Адбылася знамянальная падзея ў Мінску 18 снежня 1831, у касцёле кляштара бернардзінак, у прысутнасці сведкаў, сярод якіх быў нават суддзя 1-га (крымінальнага) дэпартамента Мінскага галоўнага суда Казімір Ванькові ч. Наўрад ці ён стаў бы браць удзел у выкраданні непаўналетняй.

І ўсё ж шлюб быў не зусім звычайны. Чаму вянчаліся не ў Катэдры, прыхаджанамі якой былі, а ў жаночым кляштары? Чаму вянчанне адбывалася «згодна з указаннем біскупа мінскага Матэвуша Ліпскага»? Навошта на шлюб дазвол біскупа? Сёння мы можам адказаць на ўсе гэтыя пытанні.

### Любоў сярод вайны

Пачаць нашу гісторыю немагчыма, не абмаляваўшы агульны план. 1831 год можна параўнаць з нашым часам — тады дакладна гэтак жа адзін славянскі народ, палякі, зрабіў спробу вызваліцца з «братэрскіх абдымкаў» велікаросаў — і скончылася гэта вайной. Ваенныя дзеянні разгорталіся і на нашай тэрыторыі, зацягваючы дзясяткі тысяч маладых людзей у барацьбу за свабоду ад Расіі. У канцы 1830 у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай губернях, Беластоцкай вобласці, а таксама ў Валынскай і Падольскай губернях было ўведзенае ваеннае становішча. Да восені 1831 паўстанне, што бушавала на прасторах былой Рэчы Паспалітай, яшчэ толькі заціхала: 8 верасня пад ціскам расейскіх войскаў пала Варшава, 21 кастрычніка паўстанцы склалі зброю. Для тысяч удзельнікаў паўстання параза стала жыццёвай трагедыяй: многія вымушаны былі назаўжды пакінуць радзіму, трапіўшы ў высылкі або эміграваўшы. Марцінкевіча ж, які праз трыццаць гадоў, у 1863-м, спрычыніцца да паўстання наступнага пакалення, у 1831-м пасапраўднаму хвалявала толькі каханне...

### Кожнага зарэжу да смерці

Дзень 27 лістапада 1831 пераваліў за поўдзень. Судовае пасяджэнне Мінскай рымска-каталіцкай кансісторыі завяршалася і службоўцы збіраліся па хатах, калі ў памяшканне ўвайшоў чыноўнік паліцэйскай управы Тамковіч і папрасіў не разыходзіцца. Скора па тым даставілі хлопца і дзяўчыну — канцыляры ста Мінскага губернскага межнага суда Вінцэнта Марцінкевіча і дачку адваката Юзэфу Бараноўскую. Іх скіравалі ў суд для разбіральніцтва часовы ваенны губернатар Мінска Строганаў, атрымаўшы прашэнне ад маці Юзэфы, Мар'яны Бараноўскай. Яна заявіла пра страшнае злачынства — выкраданне яе 14-гадовай дачкі: «...26-га лістапада а 3-й гадзіне апоўдні ... канцыляры ст Вінцэнт Марцінкевіч... маю дачку Юзэфу Бараноўскую, ад роду 14 гадоў, што ў вучэльню на ўрокі ішла, гвалтам на вуліцы схапіў і ў сваёй кватэры на Траецкай гары схаваў. Пра тое выкраданне калі мы з маім мужам даведаліся і дачку нашу ледзьве а 2-й гадзіне апоўначы ў кватэры Марцінкевіча знайшлі і патрабавалі вярнуць яе ў дом наш. Тады выкрадальнік Марцінкевіч не толькі яе не выдаў, але яшчэ з брытвай у руцэ да мяне кінуўся, кажучы, калі хто пасмее да маёй дачкі наблізіцца, кожнага зарэжу да смерці».

Губернатар загадаў паліцыі даставіць Вінцэнта і Юзэфу для разбіральніцтва. Высветліўшы падрабязнасці, перадаў маладых у кансісторыю, бо палічыў, што гэта справа духоўнага суда. У лісце да мінскага біскупа Ліпскага ён паведамляў пра абставіны гісторыі, у прыватнасці, што «памянёны Марцінкевіч жаніўся ўжо з дачкой просьбіткі».

Цікава, як расейскі ваенны губернатар у час польскага паўстання падпісваў лісты да каталіцкага біскупа: «З абсалютнай пашанай і адданасцю маю гонар быць Вашай Светласці пакорны слуга граф Строганаў».

Біскуп Ліпскі ў той дзень хварэў, і справу Марцінкевіча разглядаў прэлат Рава. Члены кансісторыі дапыталі маладых і высветлілі, што ніякага выкрадання не было, усё было са згоды Юзэфы, і яны сапраўды ўжо павянчаныя і з'ўляюцца мужам і жонкай. Хто ж казаў праўду: маці або маладыя? На час следства было вырашана змясціць Юзэфу ў кляштар бернардзінак (цяпер гэта праваслаўны Свята-Духаў сабор на Нямізе) пад найстражэйшы нагляд.

Тады ж Марцінкевіч прадставіў у кансісторыю даведку ад святара ўніяцкай царквы з Сеніцы, Амяляна Людвіка Беліновіча, што 12 лістапада 1831 у прысутнасці сведак Ежы Рэўта, Паўла Жыглінскага і Міхала Карзюка ён павянчаў Марцінкевіча і Бараноўскую.

### Папяровыя баі

І пачалася бітва прашэнняў, якія падавалі абодва бакі на ўсе высокія імёны — аж да імператара. 30 лістапада бацькі Бараноўскай у лісце на імя імператара Мікалая І запатрабавалі прызнаць шлюб несапраўдным, а таксама арыштаваць выкрадальніка іх адзінай дачкі і аддаць яго і святара Беліновіча пад суд. Бацькі не саромеліся кранальных выразаў пра боль бацькоўскага сэрца, называлі дачку адзінай надзеяй і апорай усяго іх жыцця і прадказвалі, што гэты шлюб прынясе ёй няшчасце.



Вінцэнт Марцінкевіч з дачкой Камілай. Здымкаў Юзэфы Бараноўскай не захавалася.

У сваю чаргу і маладыя падалі на імя біскупа Ліпскага прашэнне. Марцінкевіч таксама здолеў уклас ці ў афіцыйны дакумент словы, здольныя растапіць любое сэрца. Ён пісаў, як яны з Юзэфай паўсталі перад яе бацькамі і перажылі страшную пакуту, калі тыя без важкіх прычын забаранілі ім пабрацца. «Пасля гэтага наша жыццё занурылася ў тугу і адчай, і адзіным, што асвятляла нашы дні, была надзея на шчасце. Не маючы больш сіл трываць пакуты, яны вырашыліся пабрацца шлюбам — хоць і не ў сваім парафіяльным саборы, але ўсё ж такі перад аблічам Божым, і пакляліся Творцу не адпускаць адно аднаго».

А праз колькі дзён Марцінкевіч пісаў прашэнне на імя імператара, у якім скардзіўся на марудлівасць кансісторыі, і пісаў, што яго жонка ў манастыры падвяргае сваё здароўе небяспецы. Ён прасіў імператара ратыфікаваць шлюб і забараніць бацькам умешвацца ў іх асабістае жыццё. Да просьбаў Марцінкевіч прыклаў метрычную выпіску Алінфіі Юзэфы Бараноўскай, з якой вынікала, што яна нарадзілася 6 чэрвеня 1815. Значыць, ёй не магло быць, як сцвярджала яе маці, 14 гадоў, а было ўжо 16 з паловай. Напэўна ж маці дакладна ведала век сваёй адзінай дачкі — і тое, што яна неаднаразова ў сваіх прашэннях уводзіла чыноўнікаў у зман, прымушае ўсумніцца і ў яе словах пра брытву і пагрозы. Відаць, кандыдат у зяці надта ж не падабаўся Мар'яне Бараноўскай.

Бацькі Юзэфы ў новым прашэнні на імя імператара паўторна патрабавалі арыштаваць выкрадальніка і трымаць яго пад вартай. Марцінкевіч у сваю чаргу скардзіўся, што яго жонку ў манастыры наведваюць падасланыя маці людзі і сама маці. Яны ўгаворамі і ціскам змушаюць Юзэфу сказаць, што шлюб быў прымусовы.

У адказ няшчасны бацька Юзэфы даводзіў імператару, што гэта справа крымінальная, а не духоўная, і расследаваць яе павінна паліцыя. Ён патрабаваў пакараць Марцінкевіча і ўсіх яго саўдзельнікаў, асабліва Амбражэя Лісоўскага, службоўца кансісторыі, які, на думку Бараноўскага, быў галоўным натхняльнікам злачынства. У дадатак прос ьбіт сцвярджаў, што на пальцы жонкі Лісоўскага бачылі брыльянтавы пярсцёнак Бараноўскіх — і абвінавачваў Марцінкевіча ў крадзяжы.

Марцінкевіч у адказ угледзеў у заяве адваката Бараноўскага юрыдычную непісьменнасць — дакумент быў складзены ад імя сям'і Бараноўскіх, але падпісаны адным Юзафам. Таму Вінцэнт патрабаваў наогул не прымаць яго да разгляду як несапраўдны.

Вядома, расійскі імператар сам тых прашэнняў не чытаў, усё разглядалася на месцы.

### Допыты

Перш чым прыняць рашэнне, кансісторыя падрабязна дапытала Юзэфу і Вінцэнта.

Юзэфа паведаміла, што ведае Марцінкевіча ўжо больш за тры гады. Гісторыю з «выкраданнем» яна апісала так: 26-га лістапада а 3-й апоўдні Юзэфа добраахвотна, адаслаўшы дадому слугу, зайшла на загадзя дамоўленую кватэру на вуліцы Даміні канскай, дзе быў Марцінкевіч. Туды прыйшла пані Лісоўская, і, сеўшы ў карэту з Марцінкевічам і той паннай, яны паехалі ў Сеніцу. Там у свaім доме іх вянчаў уніяцкі святар. На шлюбе прысутнічалі з жанчын пані Лісоўская, з мужчын — Лісоўскі, капітан Рэўт, а таксама мужчына, якога Юзэфа не ведала, і фурман, які іх прывёз, а таксама была сям'я Беліновіча. Адбылося гэта ўвечары а пятай гадзіне пры свечках. Святар запісаў шлюб у метрычную кнігу і даў маладым распісацца. Лісоўскі ж напісаў пасведчанне аб шлюбе, у якім распісаліся Беліновіч і ўсе сведкі. Пасля шлюбу ўсе паехалі ў дом Лісоўскіх, дзе прымала іх бабулька-маці Лісоўскай.

Цікавіла следчых і пытанне, як Юзэфа, ужо быўшы ў кляштары, падпісала прашэнне на імя біскупа Ліпскага і хто яго складаў. Бараноўская паказала, што прашэнне напісаў Марцінкевіч і прынёс яго да брамы кляштара, куды яна выйшла пад аховай дзвюх манашак і падпісала паперу.

Быў дапытаны і «выкрадальнік непаўналетняй». У адказ на патрабаванне назваць саўдзельнікаў выкрадання ён заявіў, што саўдзельнікаў не было, паколькі не было і выкрадання. З іншых яго адказаў мы даznаемся, што ў Сеніцу маладых адвёз сваімі коньмі шляхціц Карзюк, а ксяндзу Беліновічу за вянчанне ён даў тры дукаты.

На пытанне, ці ведаў святар пра тое, што вянчанне таемнае, Марцінкевіч адказаў, што «за некалькі дзён прыязджаў і прасіў яго, каб даў нам шлюб, маліў яго, баяўся, што Юзэфа з часам можа быць зняслаўленая». Але святар вагаўся. Пагадзіўся толькі тады, калі маладыя прыехалі ўпрошваць яго разам. Беліновіча Марцінкевіч раней добра не ведаў, проста паехаў у найбліжэйшы да горада прыход.

Расказаў Марцінкевіч і пра абставіны з'яўлення ў доме Лісоўскіх Мар'яны Бараноўскай: «Прыйшла з 4-ма дзясяцкімі, салдатамі і іншымі і хацела маю жонку адабраць. Але, не ўгаварыўшы, вярнулася дадому, а потым прыйшла з самай раніцы з салдатам, які да дня вартаваў нас».

### Хэпі-энд

Невыпадкова бацька Бараноўскі патрабаваў, каб справу разглядаў крымінальны суд. Было ў яго падазрэнне, што духоўная кансісторыя не будзе занадта строгая да выхадак маладога Марцінкевіча. Яго сваяком, хоць і някроўным, быў мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расійскай Імперыі, арцыбіскуп Магілёўскі, кавалер многіх ордэнаў і прочая, і прочая — Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Гэты чалавек, хоць і не жыў ужо, але па-ранейшаму карыстаўся вялікай павагай — ён займаў сваю пасаду 50 гадоў! Напэўна, былі ў Марцінкевіча і жывыя ўплывовыя заступнікі, сярод якіх даследчык В. Ліпскі назваў таго самага біскупа Мацея Ліпскага, якому пераадрасаваў справу губернатар Строганаў.

І што ж у выніку? Маладыя былі прысуджаныя рашэннем кансісторыі... да трохдзённай рэкалекцыі — адзіноты ў манастыры і праслухоўвання пад кіраўніцтвам святара духоўнай навукі. Ужо 11 снежня Вінцэнт адбыў пакаранне ў мужчынскім бернардзінскім кляштары. Юзэфу ж не выпускалі, пакуль яна не патлумачыла сітуацыю з дыяментавым пярсцёнкам. Юзэфа ў пісьмовым тлумачэнні не на гадах рашуча паказала, што яе муж чужых рэчаў не браў, а пярсцёнак з'яўляецца яе ўласнасцю, і яна ўзяла яго ў дом мужа. Юзэфа патрабавала вызваліць яе як мага хутчэй, спасылаючыся на слабасць здароўя «па прычыне замкнёнага паветра».

Вынік гэтай барацьбы за каханне нам вядомы: 18 снежня маладыя былі паўторна павянчаныя па ўсіх правілах.

Ці быў шчаслівы іх шлюб? Мы можам меркаваць толькі па сукупнасці фактаў. У 1835 Юзэфа перажыла арышт Вінцэнта, насіла перадачы ў Мінскі турэмны замак. Жыццё маладых было азмрочана і ранняй смерцю бацькоў Юзэфы (а сам Вінцэнт тады ўжо быў поўнай сіратой). У 1838 памёр Юзаф Бараноўскі, У 1840-м — 50-гадовая маці Мар'яна. Маладая сям'я бедавала, Марцінкевічы пазычалі грошы, прадавалі маёмасць. Магчыма, гэта падштурхнула Вінцэнта ўздзельнічаць у падробцы дакументаў... Але было і шмат радасных хвілін: і купля ўласнага маёнтка Люцынка, і першыя творчыя поспехі Дуніна-Марцінкевіча на менскай сцэне, і, вядома, нараджэнне дзяцей — а іх у сям'і Марцінкевічаў было не менш за шэсць! На жаль, самой Юзэфе жыццё адвяло няшмат часу — у маі 1854 яна памерла, не дажыўшы месяца да свайго 40-годдзя.

Але калі і была ў Юзэфы з Бараноўскіх Марцінкевічавай хвіліна, каб успомніць пражытае, згадвала яна, пэўна, самы шчаслівы ў жыцці дзень — 18 снежня 1831 — дзень паўторнага шлюбу з Вінцэнтам. Дзень, калі сярод бурнага і жорсткага часу, пераадолеўшы столькі перашкодаў, перамагло іх каханне.

# Жарсці на аграсядзібе, альбо

Вінцэсь Мудроў.
Апавяданне.

У аўторак, ад самай раніцы, Сцяпану Гайцюкову патэлефанавалі і папрасілі неадкладна зайсці да старшыні райвыканкама. І хаця ў Сцяпана, гаспадара турыстычнай аграсядзібы, усё наўкол было «схоплена», а начальнік раённай міліцыі быў ягоным асабістым сябрам, усё адно дзесьці пад сэрцам нарадзілася трывога. Ды яно і зразумела: на мінулым тыдні яму завезлі на сядзібу сорак бетонных слупоў, якія ў паперах значыліся як спісаныя, а насамрэч былі скрадзены з нейкай будоўлі.

І вось, блізу абеду, Сцяпан увайшоў у прымальню старшыні, сакратарка адразу ж разнасцежыла масіўныя, з пазалочанымі ручкамі, дзверы, і гэта ўжо дарэшты ўстрывожыла душу.

Старшыня, Спартак Іванавіч Марусіч, працаваў на сваёй пасадзе другі год. Прыслалі яго аднекуль з Магілёўшчыны, і напачатку ён сядзеў у сваім кабінеце невылазна, нібыта ў крэсла ўмураваны, але апошнім часам стаў гойсаць па раёне і наводзіць парадак. І першае, што зрабіў, — перавёў у простыя інжынеры загадчыка аддзела капітальнага будаўніцтва выканкама. А цяпер, па чутках, збіраўся ўшчыльную заняцца ўласнікамі аграсядзібаў.

Кіраўнік раённай «вертыкалі» сядзеў за сталом і размашыста падпісваў нейкія паперы. Нарэшце ўзняў вочы, акінуў наведніка дапытлівым позіркам, нібыта спрабуючы даўмецца — чаго ён тут таўчэцца, і толькі тады кіўком галавы паказаў на крэсла.

— Ты беларускую мову ведаеш? — знянацку запытаўся Марусіч і пытаннем такім канчаткова збянтэжыў наведніка.

— Вучыў калісьці... у школе, — прамармытаў Сцяпан і яшчэ больш насцярожыўся: ад беларускай мовы нічога добрага чакаць не даводзілася.

— Усе мы калісьці штосьці вучылі, — гаспадар кабінета закінуў на патыліцу пасму рудых валасоў. — Карацей, сітуацыя такая, — у голасе старшынёўскім загучалі ноткі заклапочанасці і нават лёгкай трывогі, — да нас едзе місі-іс.... — Марусіч адгарнуў старонку настольнага календара, падслепавата прымружыўся, — ...місіс Каліста Маер-Бянькофф. Не простая, скажу табе, госця: з двума «ф» пры канцы прозвішча і з некалькімі мільёнамі на банкаўскім рахунку.

Зразумеўшы, пра што гаворка, Сцяпан перавёў дух, адкінуўся на прыслон дыхтоўнага крэсла.

— Спартак Іванавіч, дык у мяне ж звычайная, гонтай крытая хата. Куды ў такую халупу заморскую мільянерку сяліць. Вунь, у іншых... двухпавярховыя сядзібы, аўстрыйскі фаянс...

— Ты не зусім разумееш сітуацыю, — перарваў Спартак Іванавіч і зноўку, цяпер ужо ліхаманкавым рухам, перагарнуў настольны каляндар. — Мільянерка родам з нашых мясцін і прагне панурыцца ў часіны дзяцінства. Так што ніякіх еўрарамонтаў, ніякіх сілікатаў-ламінатаў. Я тут з дырэктарам музея дамовіўся. Прывязуць табе кросны, маслабойку, лапату, яшчэ якога антыкварнага начыння...



Сяргей Гудзілін

— Якую лапату? — з панічнай інтанацыяй перапытаў наведнік.

— Якой бабы каравай у печ садзяць. Трэба будзе, да ўсяго, і хлеб спячы.

Пачуўшы такое, Сцяпан з робленай пакутай уздыхнуў.

— Ці не зашмат турботы будзе... з той госцяй. Дый каравай ў нас ужо сто гадоў ніхто не пёк...

— Нічога, знойдзеш якую бабулю... Пагатоў, прыезд гэтай... як яе... з двума «ф»... знаходзіцца на кантролі аблвыканкама. Уцяміў?

Сцяпан ізноўку ўздыхнуў, цяпер ужо з сапраўднай пакутай.

— Ну не ўздыхай ужо так, — гаспадар кабінета чарговым разам скасіў вока на каляндар. — Ты, дарэчы, колькі маеш з чалавека?

— Дзесьці дванаццаць даляраў у суткі, — з неахвотаю адказаў Сцяпан, напусціўшы на твар устурбавана-заклапочаную гімору.

— А тут атрымаеш у дзесяць разоў больш. І прыедзе яна не адна, а з унучкай. Так што падлічы сутачныя прыбыткі і рыхтуй аграсядзібу для сустрэчы дарагіх гасцей.

Падрахаваўшы ў галаве прыбыткі, наведнік прыкметна пажвавеў, памкнуўся ўзняцца з крэсла, але Марусіч паўтарыў пытанне, на якое дагэтуль не пачуў адказу:

— Дык як у цябе... з беларускай мовай?

Спартак Іванавіч зірнуў на Сцяпана з прытоенай усмешкай, ледзь прыкметна варушачы верхняй, кепска паголенай губой.

Хвіліну Сцяпан няўцямна лыпаў вачыма, дзівячыся — на якую халеру здалася старшыні тая мова, — і Марусіч з крэкантнем падняўся на ногі.

— Амерыканка ж, кажу, з нашых мясцінаў. А яны там усе, хто за акіян падаўся, нацыяналісты. Толькі па-беларуску і шпрэхаюць. Так што прыйшла ўказіўка з вобласці — арганізаваць прыём на матчынай мове, каб на яе ліха... Трэба будзе нейкую культурную праграму задзейнічаць, па раёне правесці, паказаць тоесёе... Карацей, ёсць у цябе знаёмыя, якія добра мовай валодаюць?

Сцяпан утрапёна паглядзеў на столь, разявіў у задуменні рот, перабіраючы ў памяці сяброў і знаёмых, але нікога вартага так і не згадаў. Неўзабаве і кіраўнік «вертыкалі» утаропіўся ў столь, заварушыў вуснамі і нечакана ляпнуў далонню па стале — ды так рашуча, што наведнік сцепануўся.

— Хаміцкі! Паэт наш мясцовы! І як яго адразу не згадаў? — гракнуў Спартак Іванавіч і пры гэтым натхнёна пацёр далоні.

— Гэта той, што ў газеце працуе? — па голасе Сцяпанавым было зразумела, што ён не падзяляў старшынёўскага натхнення.

— Працаваў... выгналі за п'янку.

— Куды ж яго... такога... экскурсаводам браць? Надоечы бачыў ля піўной: стаіць, трасецца ўвесь.

— Ну дык што нам, з вобласці чалавека выпісваць? — буркнуў Марусіч. — Ды і ў вобласці ўжо нікога не знойдзеш. Карацей, едзь у піўную, шукай Хаміцкага.

Пасля кабінетнай задухі Сцяпану добра дыхалася. Ён стаяў на бетонных прыступках і глядзеў на неба. Калі гадзіну таму заходзіў у выканкам, свяціла сонца і неба было празрыстым да прадоння. Цяпер жа па небе плыло ашмоцце навальнічных хмар, і гэта прадракала навальніцу. Але пахмурны працяг зусім не псаваў настрою. Наадварот, душа Сцяпанава поўнілася нейкім дзіўным захапленнем.

Два гады праміну ла, як ён перабудаваў бацькоўскую хату ў турыстычную аграсядзібу, і з той хвіліны пазбыўся спакою. Вось і цяпер Сцяпан стаяў ля райвыканкама, а душа ягоная была там, на родным падворку, які, дарэчы, мінулай ночы аж па край абаніта валі пастаяльцы — пяцёра піцерскіх дзецюкоў. Ды дзіва што: за два дні піцерцы агоралі цэлую скрыню гарэлкі!

«Заўтра ж выганю ўсю гэтую п'яноту», — раз'юшана і ўадначас весела сказаў сам сабе Сцяпан. Адчуванне таго, што хутка ў яго з'явяцца іншыя пастаяльцы — выхаваныя, непітушчыя і, галоўнае, з туга набітымі гаманцамі, — сціскала душу спазмам замілавання гэтым светам, гэтымі нізкімі разбэрсанымі хмарамі, гэтымі далёкімі грымотамі, што абудзіліся за даляглядам, і Сцяпан не адчуваючы пад сабою ног кінуўся да машыны. Хацеў яшчэ да дажджу пад'ехаць да піўной летамкі на Савецкай вуліцы.

II

Даўно не пачуваў сябе так шчасна Вася Хаміцкі, як тут, на аграсядзібе. Хаця за апошнія дні і ўходаўся дарэшты, бо давялося і дровы секчы, і траву касіць, і ваду цягаць у лазню, і нават з маслабойкай завіхацца. Ды што там фізічная праца. Мусіў нават дэкаратыўным мастацтвам заняцца: выразаў лобзікам з фанерыны сілуэт бусла, а потым яго размаляваў. Гаспадар прыбіў бусла да вільчака хаты, і потым яны доўга не маглі зразумець — што ў ім не так. Аказалася, што лапы зрабілі каленямі наперад, а ў буслоў жа яны назад глядзяць.

Адрыгнуўшы сытным баршчом, Васіль дастаў з кішэні портак пакамечаны аркушык, разгладзіў на грудзіне. На ім імклівай рукой быў намаляваны ўзгоднены райвыканкамам маршрут заўтрашняй выправы па гістарычных мясцінах, паўзверх якога бег размашысты надпіс: «Пачаць экскурсію словамі: «Непазнавальна змяніўся за апошнія дваццаць гадоў наш раён».

Васіль бязгучна вылаяўся, піхнуў паперку назад у кішэнь. Што якое, а ўжо словам ён валодае, тут падказак не трэба. І раён ведае, як не хто іншы. За час працы ў газеце сто разоў яго аб'ехаў — і ўдоўжкі, і ўпоперак. Божухна, і пра што толькі не даводзілася пісаць... і пра міфічныя ўдоі, і пра «лінейкі гатоўнасці», і пра звышпланавы вываз арганікі на палеткі. А цяпер вось і сельгасаддзел у газеце скарацілі, і яго, паэта, ветэрана раённай журналістыкі, з працы выгналі.

Звёўшы да пераносся кусцістыя бровы, Васіль угалас вылаяўся на адрас рэдактара «раёнкі» і, закінуўшы рукі за патыліцу, стаў глядзець на светлыя шчыліны, што працінали дах адрыны.

Мінулага аўторка Васіль, як заўсёды, сядзеў у піўной летамцы на Савецкай, і раптам перад вачыма паўстаў Сцёпка Гайцюкоў — стары прыяцель, з якім колісь вучыліся ў сельгасакадэміі і які пару гадоў таму з'ехаў з горада і жыў недзе на аграсядзібе. Сцёпка, азірнуўшыся, паказаў на мігах, што трэба пагаманіць, і яны нетаропкай хадою прайшліся ўздоўж вуліцы. Гайцюкоў стоеным голасам паведаміў, што ў яго на сядзібе мае атабарыцца амерыканка, якая зусім не ведае расейскай мовы — толькі беларускую ды англійскую, — і прапанаваў Васілю папрацаваць тыдзень у якасці перакладчыка. Прапанова была зманлівай, але і насцярожвала. Амерыканцаў ён зроду не бачыў, а халера іх ведае — што яны могуць учыніць. А раптам паспрабуюць завербаваць? Ці ж мала было выпадкаў? Магчыма, Васіль і адмовіўся б ад такой прапановы, ды тут секанў шпаркі дождж, яны ўбіліся ў Сцяпанаў легкавік, і давялося, на знак згоды, ляпнуць далонню па хціва падстаўленай пяцярні. Ну і не схібіў, бо тут, на аграсядзібе, былы журналіст пачуваў сябе як у бога за печчу. Сыты, памыты — у лазні дзве гадзіны парыўся — і ў новай вышыванай кашулі. Сцяпан адмыслова ездзіў па яе ў горад — пазычыў у нейкага фальклорнага калектыву. Трэба было заморскіх гасцей у нацыянальных строях сустрэць.

Амерыканка, місіс Маер, Васілю адразу спадабалася. Кабеце было даўно за семдзесят, а яна мела танклявую дзявочую паставу і не па ўзросце пышную фры-

# Ці лёгка засекчы пеўня

зуру з уплеценым у скронь белым гарлачыкам. І звалі яе адмыслова: Каліста. Васіль, набраўшыся смеласці, пацікавіўся: адкуль такое дзіўнае імя? Аказалася, што бацька кабеты ў маладосці захапляўся навуковай фантастыкай, таму й назваў дачок у гонар спадарожнікаў Юпітэра: Каліста і Амальтэя.

Адно кепска — мучыла амерыканку задышка. Крыху пройдзе, спыніцца, на што-небудзь абапрэцца і зморана дыхае. І дыханне ў яе прыемнае — мятна-шакаладнае. Іншая рэч — унучка. Тая не па гадах тоўстая. Як бяжыць, дык трыбух трасецца. Няйначай, ад кока-колы ды хот-догаў так расперла. І пабеларуску зусім нічога не цяміць. А вось бабуля, хаця і з нейкім дзіўным акцэнтам, а размаўляе на добрай літаратурнай мове. І асабліва любіць паэзію. Васіль тых вершаў ведае да халеры і разпораз іх чытае. І, што дзіўна, калі свой верш прачытае, місіс Маер толькі лагодна пасміхнецца. А прачытае якога класіка — адразу ганарар атрымлівае: дзесяць даляраў адной паперкай. А сёння раніцай, яшчэ да сняданку, прачытаў знакаміты верш «Трэба дома бываць часцей», дык госця расчулена носам шморгнула і паўсоценнай баксінай абдарыла.

Ну і, вядома, вось ужо чацверты дзень на губе і росачкі не было. Нават «дзембельскі каляндар» завёў: тры драпіны ржавым цвіком правёў па шуле. Першыя два дні надта цягнула ўзяць чарку, цяпер крыху адлягло. Сёння ўвечары, як будзе спаць класціся, чацвертую драпіну накрэмзае.

Спаць, праўда, даводзіцца ў адрыне, але яно і лепш: свежае паветра, здаровы сон і сена пахне так, што галава кружыцца. Сцяпан надоечы наогул прапанаваў застацца ў яго да Новага года. Збіраецца, казаў, мансарду будаваць, агароджу на бетонных слупах вакол сядзібы ставіць...

«Эхх!» — каротка выдыхнуў Васіль, кульнуўся на бок, збіраючыся крыху падрамаць, ды тут знадворку даляцеў заклапочаны голас гаспадара:

— Ты дзе?!

Васіль з’ехаў з тарпы, на хаду размінаючы рукі, як гэта робяць піяністы перад канцэртам.

— Таўстуха курынага булёну просіць, — Сцяпан незадаволена кіўнуў на дзверы хаты, — так што трэба пеўніка секануць. Вунь таго, цыбатага. А то ён на людзей кідаецца. Калодка з сякерай за адрынай стаіць.

Гаспадар пайшоў да хаты і ўжо з ганку крыкнуў:

— Круп сыпані ў хляве ды дзверы зачыні. Проста так не зловіш.

Васіль у адказ махнуў рукой. Ён сам нарадзіўся ў вёсцы, і такія парады гучалі недарэчы.

Злавіць цыбатага задзіраку, штопраўда, было не так і лёгка. На параду гаспадара, Васіль сыпануў панцаку, паклікаў курэй, тыя гамузам збегліся, але задзірака ў хлеў не пайшоў. Стаяў ля шчарбатага ганка і незадаволена квахтаў, узняўшы пёры на шыі.

— Пеця, Пеця, Пеця, — паклікаў Васіль, сыпануў круп на ганак, і певень з насцярогаю ўвайшоў у хлеў.

Нарэшце дзверы былі зачыненыя, і звыклыя да зыркага сонца вочы апанавала шарая памрока. Уваччу паплылі вясёлкавыя кулі, а паміж імі размытымі белымі плямамі замітусіліся куры. Васіль, аднак, не выпускаў з поля зроку пеюна-задзіраку, і калі той падышоў бліжэй, кінуўся яго лавіць. У хляве ўсчаўся гармідар. Куры лёталі, б’ючы крыламі па твары, голасна квахталі, а дзесьці над галавой, заляцеўшы на вышкі, галасіла, прадракаючы бяду, сіпатая курач. Да таго ж за дзвярыма адчайдушна забрахала гаспадарова сучка і спалохана задзяўкаў шчанюк. І калі, пабіўшы галаву аб загарадку, Васіль схапіў гарластага злодзея за хваста і са словамі «Адлётаўся, паскуда!» прыціснуў да грудзей, аказалася, што злапаў не пеўня, а рабую курыцу. Толькі хвілін праз пятнаццаць — з пабітай галавой, з пер’ем у валасах і з размазаным на носе курыным памётам — Васіль баднуў галавой дзверы хлява і сутыкнуўся з амерыканкай. Заморская госця была не на жарты ўсхваляваная. Перапужалася, відаць, пачуўшы сабачы брэх і курыны лямант. Але нечакана пасміхнулася, паспрабавала палашчыць пеўня, якога Васіль сціскаў двума рукамі.

— Уот э вандэфул кок! — уражана прашаптала місіс Маер, забыўшыся на імгненне родную мову, але тут жа страсянула кудзеркамі: — «Кок» па-ангельску «певень».

— Ды я ведаю, — буркнуў Васіль, згадаўшы малюнкі свойскай птушкі з падручніка англійскай мовы і подпісы пад імі: «cock, goose, duck».

Спачатку Васіль хацеў адпусціць пеўня: ну не секчы ж яго на вачах гэтай Каністры, ці як яе там... Але ж тут і зло ўзяло. Столькі часу лавіў гэтага нягодніка, лоб пабіў, кашулю завэдзгаў... і што цяпер — адпусціць? Ну ўжо не... другім разам будзеш лавіць — інфаркт атрымаеш. Ды і што тут страшнага? Цюкнуў сякерай, абскуб, абсмаліў і ў чыгун укінуў.

Не ведаючы, як адчапіцца ад Каністры, Васіль з нецярплівасцю пераступіў з нагі на нагу, заклапочана азірнуўся на бокі, і тут яму пашанцавала: з сабачай будкі вылез таўсматы шчанюк, і кабета, ляпнуўшы далонямі, кінулася яго лашчыць.

Сцярожка, на дыбачках, завярнуў Васіль за адрыну, падышоў да калодкі, выдзер з яе сякеру і ўжо замахнуўся, каб адсекчы пеўню галаву, ды тут за спінай нема, з гартаннымі нотамі, залямантавала амерыканка.

— Што вы робіце?!

Рука здрыганулася — і з-пад сякеры адляцеў толькі грэбень. Певень вырваўся з рук, узляцеў у паветра, скокнуў на галаў

## Нечакана рука намацала цупкія даляры ў кішэні — і добры настрой апанаваў душу

Каністры, цыркнуўшы на твар гарачай юшкі. Амерыканка ціха вохнула, закаціла вочы, з млявай павольнасцю асунулася на зямлю. У тую ж хвіліну, пакліканая немым бабчыным воклікам, з-за адрыны вытыркнулася ўнучка і, пабачыўшы скрываўленую бабцю і поруч з ёю мужчыну з сякерай, таксама вохнула, ушчаперылася ў збуцвелую сцяну і, здзіраючы з пальцаў манікюр, таксама абрынула вобзем.

Неўзабаве з-за рога адрыны вылецеў гаспадар аграсядзібы. З разгону ён зачапіўся нагой за таўстуху і нават збялеў з перапуду. Але тут жа ўцяміў, у чым справа, прыпаў вухам да грудзіны непрытомнай пастаялкі.

— Ці жывая? — сіпата запытаўся Васіль, звяртаючыся да выстаўленага Сцяпанавага азадка.

Сцяпан у адказ мацюкнуўся.

— Ідзі лепш зірні, што з унучкай!

Васіль крадком падышоў да таўстухі і перавёў дых: малады арганізм справіўся са стрэсам і дзяўчына ўжо спрабавала падняцца. Але ўгледзеўшы Васіля, прыціснулася плячамі да сцяны і са слязьмі на вачах перахрысцілася.

— Сякеру кінь, халера! — грымнуў за спінай адчайны Сцяпанаў голас.

Толькі цяпер заўважыў Васіль, што трымае ў руках сякеру. Выпусціўшы з рук тапарышча, ён разважліва, прачышчаючы глотку, кашлянуў у далонь.

— Кок... май кок! — паспрабаваў штосьці патлумачыць па-ангельску, але таўстуха, пачуўшы слова «кок», шалёнымі вачыма ўтаропілася на крэсла Васілёвых штаноў і яшчэ ямчэй прыціснулася да адрыны.

— Дзе ты, йоп?! — гаспадар ускочыў на ногі, падхапіў пастаялку пад пахі. — Бярыся, пацягнем да калодзежа!

Місіс Маер была на дзіва лёгкай.

Паклаўшы змарнелую небараку ля калодзежа, Васіль налёг на корбу калаўрота, з аглушальным плёскатам выцягнуў паўнюткае вядро і хацеў быў шухнуць вады на самлелую госцю, ды Сцяпан перахапіў вядро.

— Ты што, бляха, зусім ашалеў?!

Сёрбнуўшы на поўную губу халадзёнкі, гаспадар аграсядзібы пырснуў вады на твар непрытомнай пастаялкі.

— Ну што стаіш, як усёршыся. Ляці ў хату, цягні скрыню з лекамі. Адразу ля ўваходу, на сцяне вісіць.

Васіль ужо бег да хаты, а Сцяпан усё крычаў яму наўздагон: «Мабілу прыхапі, трэба хуткую выклікаць!»

На ганку былы журналіст спыніўся, і нечаканая думка працяла свядомасць: «А што я, сапраўды, бегаю тут, як усёршыся?» — Васіль збіў з чупрыны пух, выцер рукавом курыны памёт з носа. «Знайшлі парабка. Запрашалі выправу правесці, а тут ужо на двух руках мазалі. Працую як мурын на плантацыі. І ноччу сну няма праз камароў. Самі ў хаце на ложках дрыхнуць, а мяне ў адрыну ўперлі», — і, дзіўная рэч, пад уражаннем тых гарачкавых думак ногі панеслі яго ў шырокае поле. Спачатку ён ішоў сцярожка, сюд-туд азіраючыся на Сцяпанаву аграсядзібу, потым прыпусціў, нібыта яму жару кінулі ў порткі, ды тут жа ізноў запаволіў хаду і са сполахам уваччу зірнуў праз плячук.

«А як возьме ды здырдзіцца? На каго тады пальцам торкнуць? На мяне, вядома», — ад такіх думак былому журналісту стала не па сабе і ногі зрабіліся ватнымі. «Але што я такога зрабіў? Пеўню грэбень адсек?» Васіль згадаў раптам, як у далёкім дзяцінстве маці адсекла качцы галаву, тая стала бегаць, безгаловая, па двары, а ён, дзіцянё, крычаў ліхім голасам: «Мама, мама! Яна яшчэ жывая!»

Згадаўшы маці, Васіль пракаўтнуў халодны камяк, што знянацку падступіў да горла, рашуча пашыбаваў па полі — туды, дзе стаяў шыхт высокіх бярэзін, на якіх трывожна гарлалі гракі і дзе бегла вясковая праселіца.

Машыны па той праселіцы ездзілі зрэдку, але Васілю пашанцавала. Не паспеў узысці на ўзбочыну, як з-за паваροткі выехала, уздымаючы страшэнную пылюку, «лятучка» тэхдапамогі.

Ён з вохканнем залез у навылёт прапыленую кабінку, кіўнуў на знак падзякі маладому кіроўцу.

Настрою не было. Панурыўшы галаў, Васіль невідушча глядзеў на дарогу і слухаў выццё рухавіка — то жаласлівае на пад’ёме, то абуранае, калі машына каціла з гары. Нечакана рука намацала цупкія даляры ў кішэні — і добры настрой вомігам апанаваў душу.

«Ох, і нап’юся я сёння», — бязгучна прашаптаў пасажыр і ўжо вясёлымі вачыма зірнуў на кіроўцу. Той у адказ падміргнуў, запытальна тузануў падбароддзем, паказваючы на вышыванку.

— Што гэта ў вас за прыкід?

— Канцэрт даем для працаўнікоў вёскі, ды баян дома забыў, — прамовіў Васіль і далей, аж да самага горада, яны ехалі моўчкі.

# Серыя твораў беларускіх класікаў ужо дастаўленая ў кнігарні

26 тамоў серыі «Мая беларуская кніга» выдавецтва «Папуры» давезлі да кніжных крам і сеткі OZ.BY. Серыя ўяўляе сабой зрэз беларускай літаратуры — ад старажытных легенд, народных казак, хрэстаматыйных і малавядомых твораў класікаў да работ сучасных пісьменнікаў. Сярод аўтараў класікі беларускай школьнай праграмы: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, Максім Багдановіч і Іван Мележ. Ёсць і прадстаўнікі ваеннага пакалення — Іван Шамякін, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, філалагічнага пакалення — Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч.



Складальнікі ўключылі ў серыю і беларускіх аўтараў, якія пісалі не на беларускай мове: Майсея Кульбака, Адама Міцкевіча. Прадстаўленыя таксама кнігі, якія выдаваліся раней, але іх ужо не так проста знайсці ў крамах — гэта творы Андрэя Мрыя, Вячаслава Адамчыка, Саламеі Пільштыновай, Францішка Аляхновіча, Яна Баршчэўскага.

У серыі прадстаўленыя творы на шырокі чытацкі густ: для аматараў гістарычнай літаратуры — Кастусь Тарасаў «Пагоня на Грунвальд», для дзяцей — казкі «Сіняя світа» і твор «Палескія Рабінзоны» Янкі Маўра.

Сумарны тыраж кніг — 60 тысяч асобнікаў, кожная па 2—2,5 тысячы штук.

Над праектам на працягу двух гадоў працавалі пісьменнік Уладзімір Арлоў, літаратуразнаўцы Пятро Васючэнка і Міхась Тычына, перакладчык Лявон Баршчэўскі, выдавец Уладзімір Сіўчыкаў.

**tut.by**

# Купала, Колас, Быкаў і Барадулін — у Мінску праходзяць дзве цікавыя выставы



**Кім Шастоўскі «Янка Купала ў Ляўках».**

Гэта выстава жывапісу Алены і Кіма Шастоўскіх і выстава ручнога ткацтва Святланы Баранкоўскай «RAD№O». І на жывапісных палотнах, і на габеленах можна ўбачыць класікаў нашай літаратуры. Выставы будуць экспанавацца ў мінскім Палацы мастацтваў (Казлова, 3) да 19 ліпеня.

**МН**



**На інтэрнэт-старонцы гадзіннікаў і ювелірных вырабаў HAY.BY у фэйсбуку з'явіліся здымкі беларускага фрыстайліста, алімпійскага чэмпіёна Антона Кушніра і яго жонкі Наталлі, адзетых у вышыванкі.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Амерыканец марыць зарабіць мільён. Рускі марыць прапіць мільён. Беларус марыць пражыць на тры мільёны цэлы месяц.

* * *

Гутарка з беларускім мільянерам.

— Як Вы атрымалі свой першы мільён?

— Памяняў 65 даляраў.

* * *

Насамрэч Грэцыя не вінная Еўропе сотні мільярдаў еўра.

Гэта былы прэм'ер згубіў пашпарт, а зламыснікі набралі па ім крэдытаў у МВФ і ЕЦБ.

* * *

Сумую па тых днях, калі можна было проста спіхнуць каго-небудзь у ваду, не турбуючыся за смартфон у яго кішэні.

* * *

Дзядуля-падабцаснік схапіўся за сэрца, але строгі погляд жонкі прымусіў яго пражыць яшчэ дваццаць гадоў.

* * *

Крызіс — гэта калі ты чакаў, што вось-вось пачнеш жыць добра, а потым зразумеў, што добра ты жыў раней.

* * *

Калі варыць пельмені 20 хвілін, то гэта ўсё яшчэ пельмені, калі 40 хвілін, то гэта макароны па-флоцку, а калі 60 хвілін і пасыпаць сырам, то ўжо лазання.

* * *

– Вашы моцныя бакі?

– Я настойлівы: аднойчы я дайшоў да 27-й старонкі вынікаў пошуку ў гугле.



**Стартавала доўгачаканая для заўзятараў пара футбольных еўракубкаў. Салігорскі «Шахцёр» без цяжкасцяў адужаў паўночнаірландскі «Гленавон». А вось жодзінскае «Тарпеда» саступіла албанскаму «Кукесі». Падчас гульні фанаты жодзінцаў (на фота) спявалі «Не быць скотам», а таксама гукалі: «Косава — Сербія».**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**На месцы Клецкай бітвы з татарамі ў 1506 годзе з'явіўся новы камень. Месца і раней было адзначанае, але дадалася выява князя Міхала Глінскага з сілуэтам сярэднявечнага Клецка.**



**Сербскі тэнісіст Новак Джокавіч стаў трохразовым чэмпіёнам Уімблдона ў мужчынскім разрадзе. У фінале ён перамог Роджэра Федэрэра — 7:6, 6:7, 6:4, 6:3. У актыве Джокавіча — дзевяць перамогаў у фіналах Вялікага шлема, у тым ліку год таму на Уімблдоне.**




**Беларуская паштовая марка «Слуцкія паясы» на міжнародным конкурсе «Вялікі прыз выставы WIPA» ў Аўстрыі ўвайшла ў дзясятку найлепшых марак свету, паведамілі ў Міністэрстве сувязі і інфарматызацыі.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Новым Барысаве** на фабрыцы дрожджаў Гутмана акцызнік Крукаў, пачатаючы чан, у каторым было 6000 вёдзер спірту ў 90 градусаў, паднёс да чану запалку, ад чаго загарэўся спірт і наступіў страшэнны ўзрыў. Страху ўзарвала і адкінула на чвэрць вярсты ў раку Бярэзіну. Работніка выкінула з другога паверха на першы. Акцызніку паламала тры жэбры і абсмаліла цела. Спірт гарэў цэлыя суткі з лішнім. Страты вялікія.

**«НН». №26. 1915.**

**АМОН хавае твар.** Баец, які ўдарыў Святлану Завадскую, лічыць за лепшае захоўваць інкогніта. Аддзел інфармацыі ГУУС Мінгарвыканкама заявіў, што Завадская першая ўдарыла амонаўца (а мог бы заплакаць і хуткую выклікаць!), а баец толькі «штурхнуў спн.Завадскую далонню». Але на тэлезапісе выразна відаць іншае.

**«НН». №26. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 14.07.2015.
Замова №2614.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

